10 лютага 2017 | № 5 (519)

Новы час

novychas.by

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА • ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

Засцянковая Атлантыда Фларыяна Чарнышэвіча

стар. 11











# У чаканні Пуціна

## Ці магчыма мірна скасаваць шлюб паміж Беларуссю і Расіяй?



Сяргей ПУЛЬША

Самымі папулярнымі тэмамі, нягледзячы на тое, што гэта падзеі мінулага тыдня, застаюцца ўвод Расіяй памежнай з Беларуссю зоны і прэс-канферэнцыя Аляксандра Лукашэнкі.

Відавочна, што памежная зона была ўведзеная не проста так. Можа быць, гэта было рэакцыяй на пяцідзённы «бязвіз» для замежнікаў у Беларусі, аднак выклікала яна шмат пытанняў.

Ужо пазней у ФСБ Расіі патлумачылі, што ўвядзенне памежнай зоны ў Смаленскай, Пскоўскай і Бранскай абласцях створана «для барацьбы з транзітнай незаконнай міграцыяй, наркатрафікам і незаконным перамяшчэннем праз мяжу таварна-матэрыяльных каштоўнасцяў».

У ФСБ пры гэтым падкрэслілі, што загад кіраўніка ведамства не накладвае абмежаванняў на свабоду перасячэння дзяржаўнай мяжы грамадзянамі Расіі і Беларусі: «Устанаўленне памежнай зоны не прадугледжвае ажыццяўлення пагранічнага кантролю асоб, транспартных сродкаў, грузаў, тавараў і жывёл, адкрыцця і функцыянавання пунктаў пропуску праз дзяржаўную мяжу».

Тым не менш, Расія — краіна вялікая, і пакуль тлумачэнне ФСБ дасягнула вушэй памежнікаў, на беларуска-расійскай мяжы ўтварыліся хоць невялічкія, але ўжо чэргі — менавіта з-за пашпартнага кантролю.

Зразумела, Лукашэнка павінен быў рэагаваць на такі несяброўскі крок Расіі. Як жа: ён разам з Віктарам Чарнамырдзіным калісьці выкопваў памежны слуп на расійскім накірунку. Зараз што: укопваць яго назад?

Гэта — толькі адзін аспект складаных расійска-беларускіх адносін. Ёсць яшчэ нафтавыя, газавыя, харчовыя войны... З пэўнай доляй упэўненасці можна казаць, што адносіны Расіі і Беларусі за апошнія дваццаць гадоў ніколі не былі такімі дрэннымі, як зараз.

Таму перад журналістамі кіраўнік Беларусі вымушаны быў рабіць «добрую міну пры дрэннай гульні». Зразумела, што гэтая «вялікая размова» была нацэленая на вонкавага, а не ўнутранага спажыўца. Таму, мабыць, і не далі на ёй слова айчынным недзяржаўным СМІ.

Але гэта раней можна было скарыстоўваць парадыгму «цар добры — баяры дрэнныя». І раней гэта спрацоўвала. Лукашэнка ў звыклым для сабе рэчышчы казаў: нармальныя ў яго адносіны з Пуціным, і расійскія народы нам не чужыя, і рускі чалавек для нас родны. Але ж існуе нейкая праслойка алігархаў, блізкіх да расійскага кіраўніцтва. Якія імкнуцца паставіць на калені сінявокую, усяляк задушыць. Прымусіць прадаць за бясцэнак прадпрыемствы, і гэтак далей. І вось гэтыя ворагі шкодзяць нармальным адносінам кіраўнікоў дзвюх краін і народам Беларусі і Расіі.

Зараз гэта наўрад ці спрацуе. Парадыгма змянілася. Зараз у Расіі выбудоўваецца, калі ўжо не выбудаваная, схема, што Пуцін — «цар, Бог і вайсковы кіраўнік». А таму казаць, што нейкія алігархі ў бліжэйшым атачэнні кіраўніка Расіі шкодзяць нашым стасункам, што злы Данкверт з яго Рассельгаснаглядам альбо старшыня ФСБ Аляксандр Бортнікаў з яго памежнай зонай робяць нешта «ў абыход» добрага Пуціна — гэта паставіць пад сумнеў здольнасць Пуціна кіраваць сваімі чыноўнікамі.

Старым лозунгам «цар добры — баяры дрэнныя», якім была прасякнутая сямігадзінная прамова Лукашэнкі, ён паставіў пад сумнеў «усёмагутнасць» Пуціна, кампетэнтнасць кіраўніка Расіі, і, крый Божа, здольнасць яго кантраляваць уласнае атачэнне. І гэта можа непрыемна адгукнуцца беларускаму правадыру.




**Куды ж мы падзенем дваццацігадовую гісторыю «братэрства»?**

Чаго не можа зрабіць Пуцін — дык гэта прызнаць, што ягоны беларускі калега мае рацыю. Бо, калі расійскі кіраўнік не здольны кантраляваць сваё атачэнне, дык і яго магчымасць кіраваць краінай — пад сумневам. Бо атрымліваецца, што замест Пуціна краінай кіруе купка «набліжаных», а сам ён — у ролі «вясельнага генерала».

Самы просты варыянт паводзінаў расійскага кіраўніка — па прынцыпе кардынала Рышэлье выпісаць паперу: «Усё, што зроблена, зроблена па майму загаду і дзеля карысці дзяржавы». Гэта тычыцца і мяжы, і Рассельгаснагляду, і газу з нафтай. Але тады ў вельмі непрыемнай сітуацыі апынецца Аляксандр Рыгоравіч. Як жа — разлічваў на «сяброўскія адносіны», а нож у спіну ўваткнулі, аказваецца, па загадзе сябра!

Адкаціць назад, «перазагрузіць» адносіны Беларусі і Расіі, — таксама наўрад ці спрацуе. Бо пры гэтым непазбежныя іміджавыя страты як Пуціна, так і Лукашэнкі. Дый свет змяніўся. Расія больш не можа датаваць Беларусь, а Лукашэнку наўрад ці атрымаецца ўзяць назад словы пра тое, што «без расійскай нафты мы абыдземся, будзе цяжка, але свабода і незалежнасць — гэта вельмі рэнтабельна».

Вырашыць супярэчнасці проста. Трэба перайсці на нармальныя бізнес-адносіны дзвюх краін: з нармальнымі дамовамі, непалітызаванымі кантрактамі. Мы плацім Расіі за газ — Расія плаціць нам за вайсковыя базы. Але куды ж мы падзенем дваццацігадовую гісторыю «братэрства», блок АДКБ і сумесныя вайсковыя вучэнні?

Так што ад Саюзнага Саўміну і сустрэчы Пуціна з Лукашэнкам наўрад ці варта чакаць нейкага прарыву. Нават калі яны дамовяцца па нафце і газу — «асадачак застанецца».

# Акцыя адбудзецца ў любым выпадку

Генадзь КЕСНЕР

**Мінскі гарадскі выканаўчы камітэт адмовіў арганізатарам у правядзенні Дня Волі 25 сакавіка. Адзін з заяўнікаў шэсця сябра Руху «За Свабоду» Аляксандр Русакевіч атрымаў 7 лютага адказ ад сталічнай выканаўчай улады.**

У адказе прызнаюць, што 6 студзеня атрымалі ліст пад назвай «Абавязальніцтвы па арганізацыі і правядзенні масавага мерапрыемства (дэманстрацыі)», аднак заяўляюць, што «ліст не ўтрымлівае заявы аб правядзенні масавага мерапрыемства і інфармацыі, якая прадугледжаная для такіх зваротаў у адпаведнасці з законам Рэспублікі Беларусі «Аб масавых мерапрыемствах».

Апроч таго, «звяртаем увагу, што вамі парушаны артыкул 8 Закону, у адпаведнасці з якім арганізатары масавага мерапрыемства, а таксама іншыя асобы да атрымання дазволу на яго правядзенне не маюць права абвяшчаць у СМІ, глабальнай камп'ютарнай сетцы інтэрнэт альбо іншых інфармацыйных сетках аб месцы і даце яго правядзення, вырабляць і распаўсюджваць з гэтай мэтай лістоўкі, плакаты і іншыя матэрыялы», — адзначана ў адказе Мінгарвыканкама. Паводле чыноўнікаў, у сувязі з гэтым «станоўча вырашыць разглядаемае пытанне не ўяўляецца магчымым».

Па словах старшыні Руху «За Свабоду» Юрася Губарэвіча, Мінгарвыканкам меў магчымасць адказаць заяўнікам за пяць дзён да меркаванай акцыі, але даслаў ліст ужо цяпер, праз месяц пасля падачы заяўкі на правядзенне мерапрыемства.

«Наперадзе мы маем яшчэ дастаткова часу, каб нейкім чынам скарэктаваць узніклую сітуацыю альбо падаць новую заяўку ці, урэшце, разабрацца, чаму яны маюць не ўвесь пакет дакументаў. У дасланым заяўнікам лісце ёсць спасылка, што не ўсе дакументы патрапілі на разгляд сталічных чыноўнікаў. На маё меркаванне, гэта хіба не заяўнікаў, а самога Мінгарвыканкама, бо ўвесь пакет — і заява, і абавязацельствы па правядзенні мерапрыемства — падпісаліся на офісе Руху "За Свабоду" і пры мне адвозіліся ў сталічны выканкам», — адзначае Юрась Губарэвіч.

Чаму гэта магло здарыцца? На думку палітыка, гэта недахопы ў працы чыноўнікаў са зваротамі грамадзян. «Часта там адмаўляюцца прымаць дакументы з рук у рукі, патрабуюць дасылаць іх праз паштовую скрыню, якая знаходзіцца на ўваходзе, і зараз гэта дае ім магчымасць сцвярджаць, што не ўсе неабходныя паперы да іх патрапілі. Хутчэй за ўсё, яны проста вырашылі пацягнуць з канкрэтным адказам, бо нагоды для адмовы няма, але маршрут шэсця, на маё меркаванне, іх таксама не задавальняе», — кажа лідар Руху «За Свабоду».

Нагадаем, што першапачаткова акцыя была запланавана на 25 сакавіка, збор у 14.00–14.30. Яна мусіла працягнуцца да 15.30. Арганізатары прапанавалі Мінгарвыканкаму наступны маршрут: пляцоўка ля будынку Акадэміі навук, потым шэсце па праспекце Незалежнасці да парку Янкі Купалы, дзе меркавалася завяршыць акцыю.

«Наўрад ці мы будзем адмаўляцца ад запланаванага маршрута, бо, па нашых агульных меркаваннях, ён павінен праходзіць па цэнтральных вуліцах Мінска. Тое, што пры падачы заяўкі мы адмовіліся ад правядзення мітынгу, — гэта ўжо свайго кшталту кампраміс. Бо дазволы на мітынг улады апошні дзясятак гадоў ці наогул больш даюць толькі на плошчы Бангалор. Лепшым выйсцем з гэтай сітуацыі было б правядзенне перамоваў сяброў аргкамітэту з адказнымі чыноўнікамі Мінгарвыканкаму», — лічыць Юрась Губарэвіч.

«Улады баяцца дэманстрацыі таго, што вельмі шмат людзей у Беларусі маюць альтэрнатыўную пазіцыю, па-іншаму ацэньваюць тое, што робіць улада ў дачыненні да беларускай гісторыі, нацыянальных святаў, — выказвае меркаванне палітык. — Але трэба дадаць, што кожнае падобнае мерапрыемства, калі яно адбывалася ў Мінску раней, брала на ўзбраенне і іншыя актуальныя на дадзены момант лозунгі. Зараз адбываецца актыўная кампанія па зборы сродкаў з людзей, якія страцілі працу альбо не могуць працаўладкавацца, якіх улада лічыць дармаедамі, і гэта выклікала сур'ёзнае грамадскае напружанне. Таму ўлады баяцца, што людзі скарыстаюцца афіцыйным дазволам і выйдуць пратэставаць на цэнтральныя вуліцы горада Мінска».

Тым не менш, сказаў суразмоўца, акцыя 25 сакавіка ў беларускай сталіцы адбудзецца. «Яна пройдзе ў любым выпадку, нягледзячы на тое, якое рашэнне прыме Мінгарвыканкам. Але ў іх ёсць магчымасць зрабіць так, каб усё адбылося ў законным рэчышчы, і проста выдаць дазвол на правядзенне мерапрыемства», — падсумаваў Юрась Губарэвіч.

Сярод заяўнікаў адзначэння гадавіны абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР) — прадстаўнікі Руху «За Свабоду», Аб'яднанай грамадзянскай партыі, Партыі БНФ і аргкамітэту па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя».

Новая заяўка на правядзенне акцыі 25 сакавіка ўжо пададзеная.

# Ці з'явіцца ў Слуцку помнік паўстанцам?

Зінаіда ЦІМОШАК

**У Слуцкі райвыканкам перададзены больш за 1800 подпісаў за ўсталяванне помніка Слуцкім паўстанцам.**

Грамадская актывістка Аліна Нагорная і палітолаг Алесь Лагвінец 7 лютага перадалі старшыні Слуцкага райвыканкама калектыўны зварот, які падтрымалі больш за 1800 чалавек. 1408 подпісаў — папяровыя, а 466 — электронныя.

Больш за тысячу подпісаў актывісты ініцыятывы «Дзея» сабралі сярод жыхароў горада Слуцка.

У суправаджальным пісьме да калектыўнага звароту сябра рады «Руху за свабоду» і актывістка «Дзеі» Аліна Нагорная пішуць, што Слуцкая зямля дала Беларусі шматлікіх герояў, якімі мы ўсе — грамадзяне нашай краіны — маем поўнае права ганарыцца. Слуцкае паўстанне 1920 года — самая яскравая, але і трагічная падзея на шляху змагання за свабоду і незалежнасць Беларусі ў першай палове XX стагоддзя. Гэта магутны патрыятычны прыклад для ўсіх грамадзян, асабліва нашай моладзі.

У лісце таксама канстатуецца, што, на вялікі жаль, зараз у Слуцку няма ніводнага знаку ці месца, што нагадвала б жыхарам пра гэту гераічную старонку гісторыі нашага краю.

Аліна Нагорная прапануе стварыць пры Слуцкім райвыканкаме грамадскі камітэт, у які б на парытэтных пачатках увайшлі б, з аднаго боку, прадстаўнікі мясцовых уладаў і саветаў дэпутатаў, а з другога — вядомыя гісторыкі, культурныя і грамадскія дзеячы нашай краіны, якія падтрымалі ідэю ўсталявання помніку.

Задача грамадскага камітэта — шырокае абмеркаванне і інфармаванне пра значэнне Слуцкага збройнага чыну, прыняцце прапановы адносна выгляду помніка і актыўная дапамога ў пошуку сродкаў на яго ўсталяванне.

Напрыканцы звароту Аліна Нагорная напісала, што вельмі разлічвае на дзяржаўны розум кіраўніка райвыканкама і адпаведныя крокі ў дасягненні кансенсусу па гэтым выключна важным для случакоў і ўсіх сапраўдных патрыётаў Беларусі пытанні.

Грамадскі актывіст Алесь Лагвінец паведаміў, што ў гэты ж дзень перад рэгістрацыяй подпісаў у Слуцкім райвыканкаме нацыянальна-свядомыя актывісты наведалі старшыню Слуцкага раённага Савета дэпутатаў Віктара Ражанца, каб заручыцца падтрымкай раённага Савета дэпутатаў.

— На словах старшыня раённага Савета дэпутатаў нібыта не супраць такога помніка, толькі выказаў заклапочанасць у сувязі з адсутнасцю сродкаў. Будзем чакаць афіцыйнага адказу з райвыканкама і спадзяёмся на дзяржаўны розум кіраўнікоў, — распавёў Алесь Лагвінец.

# Прэмія імя Ларысы Геніюш

**Моладзь БНФ абвясціла пра заканчэнне другога этапу кампаніі за рэабілітацыю выбітнай паэткі і прадстаўніцы беларускай нацыі Ларысы Геніюш, што была распачатая ў сярэдзіне лета 2016 года.**

У межах кампаніі актывісты Моладзі БНФ збіралі ў розных гарадах подпісы пад зваротам аб рэабілітацыі, ладзілі тэматычныя пікеты, раздавалі ўлёткі з вершамі, рабілі вечарыны памяці ў розных гарадах, наведвалі мясціны, дзе правяла апошнія гады жыцця Ларыса Антонаўна, а таксама арганізавалі электроны збор подпісаў за яе рэабілітацыю.

Моладзь БНФ адзначае станоўчую рэакцыю людзей падчас размоваў на вуліцах, але, на жаль, не ўсе ведалі, хто такая Ларыса Геніюш, асабліва маладыя людзі. Таму ўзнікае пытанне да чыноўнікаў Міністэрства адукацыі: мо варта аднавіць вывучэнне творчасці Ларысы Геніюш?

Цягам кампаніі было сабрана каля 1500 подпісаў на вуліцах, а таксама звыш 400 подпісаў пад электроннай петыцыяй. 6 лютага ў Вярхоўны суд Рэспублікі Беларусь і Генпракуратуру накіравалі электронныя подпісы, а 7 лютага была адпраўлена частка подпісаў, сабраная на вуліцах.

«Творчасць Ларысы Антонаўны — гэта наш агульны нацыянальны скарб, які мы павінны паважаць, шанаваць і захоўваць. Нягледзячы на першы адказ уладаў (а мы не проста так даслалі частку подпісаў), мы і надалей працягнем нашу кампанію ў іншым фармаце», — кажуць актывісты. Моладзь БНФ анансавала штогадовы летнік у гонар Ларысы Геніюш на яе малой Радзіме на Зэльвеншчыне, а таксама абвясціла пра заснаванне прэміі для маладых паэтаў імя Ларысы Антонаўны.

Пры гэтым выказалі спадзяванне, што чыноўнікі таксама шануюць творчасць выбітнай паэткі Беларусі, якая вядомая не толькі ў нашай краіне, але і далёка за яе межамі, і зробяць усё, каб Ларыса Антонаўна была рэабілітаваная. «Гэтая ўлада не можа лічыцца сапраўды беларускай, пакуль не рэабілітаваная Ларыса Геніюш».

**Паводле moladz.info**

# Да неўролага з пяці раніцы

**У рэдакцыю TUT.BY звярнулася Наталля з Ліды і распавяла: каб запісацца на прыём да дзіцячага неўролага, бацькі займаюць чаргу па талоны ў пяць гадзін раніцы. Праблема для раённага цэнтра не новая.**

— Для таго, каб патрапіць да неўролага, ёсць тры варыянты. Гэта запіс па тэлефоне, але запісваюць зараз толькі на ліпень. Можна запісацца па інтэрнэце, але там талончыкі выкладваюць вельмі рэдка. Напрыклад, я ў канцы студзеня тры дні сядзела анлайн на сайце Лідскай ЦРБ і ўбачыла толькі адзін талончык на 3 сакавіка. Таксама ёсць варыянт узяць талончык у рэгістратуры. І тут пачынаецца самае цікавае. Каб заняць чаргу за талонам, трэба прыйсці да паліклінікі а 5-й раніцы, і не факт, што будзеш першай. Я паспрабавала — у 5.10 раніцы і ўжо была восьмай у чарзе, прастаяла да 7.30. Калі рэгістратура адкрылася, то, натуральна, талончык узяць мне не ўдалося. Такім чынам, атрымліваецца: для таго, каб патрапіць з дзіцём да неўролага разам з дзіцём, мне трэба альбо дзяжурыць ля паліклінікі, альбо ў чатыры раніцы ўжо быць там. Па тэлефоне запісваюць на некалькі месяцаў наперад; адпаведна, я не магу прайсці планавы агляд і паказаць дзіцяці лекару своечасова, — распавядае Наталля.

У дзіцячай паліклініцы не адмаўляюць праблему, але як вырашыць яе — не ведаюць:

— У штатным раскладзе ў нас закладзена дзве стаўкі. Малады спецыяліст, адпрацаваўшы два гады, з'ехала. Яшчэ адзін лекар цяпер у дэкрэтным адпачынку. Апошні спецыяліст проста фізічна не можа прымаць усіх жадаючых. Яна адна на ўвесь горад і раён. А гэта каля 26 тысяч дзяцей. На дадзены момант мы не можам вырашыць гэтую праблему з-за кадраў, — распавялі ў дзіцячай паліклініцы. — Так, цяпер запіс да неўролага ідзе на ліпень. Але калі ў бацькоў ёсць нейкія пытанні, ці дзіця мае патрэбу ў экстранай дапамозе, то кожную раніцу ў рэгістратуры выдаецца з 7.30 пяць талончыкаў да гэтага спецыяліста. На жаль, толькі так і чынам. Нам самім складана.

У адміністрацыі Лідскай цэнтральнай раённай бальніцы, да якой і адносіцца дзіцячая паліклініка, кажуць пра тое, што напружанасць магла паўстаць яшчэ і таму, што загадчыца стацыянарным аддзяленнем урач-неўролаг, якая таксама прымае пацыентаў, з'ехала на курсы, і дадаюць, што аднаму дзіцячаму спецыялісту фізічна вельмі цяжка весці прыём у паліклініцы.

**Паводле tut.by**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Паміж Захадам і Усходам



Сяргей САЛАЎЁЎ

**Пасля прэс-канферэнцыі Лукашэнкі шмат хто задумаўся: з кім усё ж такі краіна? Мы ўсё яшчэ з Расіяй ці імкнёмся на Захад? Відавочна, што кіраўнік Беларусі адказу на гэта не даў.**

У выніку ўзнікае ўсё больш інсінуацый. Брытанская «The Observer» апублікавала артыкул, у якім пагроза акупацыі Беларусі Расіяй ацэньваецца як рэальная. Артыкул так і называецца: «Мінск — наступны ў крамлёўскім меню». Маўляў, Лукашэнка шмат гадоў атрымліваў ад Масквы значныя эканамічныя прэферэнцыі ў абмен на вайсковую лаяльнасць і агульную ваенную дактрыну. І зараз, калі адносіны Беларусі і Расіі сапсаваліся (асабліва пасля дзеянняў Крамля ва Украіне), беларускі кіраўнік вырашыў павярнуцца тварам да Захаду. Аднак у гэтым выпадку ён трапляе ў пастку, бо ў выніку сваёй жа палітыкі па збліжэнні з Расіяй ён не можа лічыць беларускае войска сваім.

Праўда, у артыкуле дзіўным чынам узнікае пытанне: што ў гэтым выпадку будуць рабіць ЗША? Чаму Злучаныя Штаты раптам павінны неяк рэагаваць на праблемы ў Беларусі?

Тым не менш, дык што ж будуць рабіць ЗША? На наўпроставую вайсковую падтрымку нам, зразумела, разлічваць не выпадае. Аднак войны зараз вядуцца не толькі і не столькі традыцыйнай зброяй. Амаль не заўважаным прайшло паведамленне пра тое, што Беларусь і ЗША дамовіліся аб супрацоўніцтве ў сферы кібербяспекі. Пра гэта 7 лютага размаўлялі міністр унутраных спраў Беларусі Ігар Шуневіч і паверанны ў справах ЗША ў Беларусі Роберт Райлі.

Як паведамляе МУС, кіраўнік міліцэйскага ведамства адзначыў, што Беларусь выступае за ўмацаванне двухбаковага ўзаемадзеяння з праваахоўнымі органамі ЗША па ўсіх пытаннях, што ўяўляюць узаемную цікавасць. У прыватнасці, гаворка ідзе пра супрацьдзеянне тэрарызму, экстрэмізму, легалізацыі даходаў, атрыманых злачынным шляхам, незаконнай міграцыі, карупцыі.

На думку ўдзельнікаў сустрэчы, асаблівай увагі ў сучасных умовах патрабуе інтэнсіфікацыя беларуска-амерыканскага супрацоўніцтва па барацьбе са злачынствамі ў сферы інфармацыйных тэхналогій, а таксама забеспячэнні абароны правоў інтэлектуальнай уласнасці.

«Гібрыдныя войны», як правіла, пачынаюцца ў СМІ і інтэрнэце. І пагадненне з ЗША ў галіне кібербяспекі — даволі цікавы факт, асабліва ўлічваючы іх занепакоенасць «рускімі хакерамі».

Праўда, у нас таксама хапае розных дзівакоў. 4 лютага шэсць прарасійскіх актывістаў зладзілі пікет на плошчы Незалежнасці ў Мінску. Трымаючы ў руках маленькі расійскі трыкалор, удзельнікі запісалі відэазварот, у якім выказвалі салідарнасць з Расіяй і абражалі краіны Захаду. У мінскай міліцыі акцыю не зафіксавалі. Таксама невядома, ці складзены на яе ўдзельнікаў пратаколы аб парушэнні закону аб масавых акцыях, што звычайна міліцыя робіць у выпадку несанкцыянаваных вулічных акцый з боку апазіцыі.

12 чалавек падпісаліся пад інтэрнэт-петыцыяй пра размяшчэнне на праязных дакументах інфармацыі на рускай мове. «Мяркуем, што ў транспарце Мінска (магчыма, і ў іншых гарадах Беларусі) парушаюцца правы рускамоўных грамадзян Беларусі. Усе праязныя дакументы — аднаразовыя талоны і шматразовыя праязныя — маюць надпісы выключна на беларускай мове. Тое ж засілле беларускай мовы назіраецца ў чыгуначным транспарце, а менавіта найменне прыпынкаў электрычак і цягнікоў — на беларускай мове кірыліцай і лацінкай», — адзначае складальнік петыцыі.

Добра, што хоць недзе ў нас ёсць «засілле беларускай мовы». Можам ганарыцца. Праўда, агрэсіўныя адэпты рускамоўя сутыкнуліся з той жа бюракратыяй, з якой маюць справу і аматары беларускай мовы. Так, у адказе сталічнага транспартнага прадпрыемства гаворыцца, што «праязныя квіткі афармлены на беларускай мове і ў адпаведнасці з заканадаўствам», а «Мінсктранс» не надзелены правам заканадаўчай ініцыятывы».

А Палата прадстаўнікоў адзначае: «Выкарыстанне беларускай мовы на транспарце, у тым ліку на праязных дакументах, з'яўляецца законным, правамерным і не парушае правы грамадзян». «Пры гэтым увядзенне абавязковага дублявання інфармацыі ў сферы транспартнага абслугоўвання на дзвюх дзяржаўных мовах непазбежна выкліча дадатковыя выдаткі дзяржаўных органаў і транспартных арганізацый, што з улікам наяўнай сітуацыі з'яўляецца немэтазгодным», — лічыць старшыня камісіі камісіі па адукацыі, культуры і навуцы Ігар Марзалюк.

Той жа самы адказ атрымалі падпісанты петыцыі з патрабаваннем, каб інфармацыя аб таварах на ўпакоўцы была не толькі па-руску, але і па-беларуску. Пад петыцыяй падпісаліся прыкладна 4,5 тысячы чалавек. Міністэрства антыманапольнага рэгулявання і гандлю дало адказ ініцыятару грамадскай кампаніі «Справаводства па-беларуску» Ігару Случаку, што для вытворцаў такая норма «з'яўляецца эканамічна неабгрунтаванай і нявыгаднай».

Цікава, што будзе, калі агрэсіўныя адэпты «рускага» і «беларускага» светаў аб'яднаюцца супраць бюракратычнай машыны? Можа, тады і наступіць рэальнае двухмоўе?

А пакуль ідэйныя з розных бакоў людзі абмяркоўваюць пытанні моваў і міжнародных адносін, шараговыя грамадзяне паціху праядаюць свае запасы. аднак іх, падаецца, яшчэ шмат. У студзені 2017 года беларусы прадалі валюты на 131 мільён долараў больш, чым купілі. Паводле статыстычных дадзеных, якія ў сераду апублікаваў Нацыянальны банк, у мінулым месяцы насельніцтва прадало наяўнай і безнаяўнай валюты на 564,39 мільёна долараў у эквіваленце, а купіла — 433,08 мільёна долараў.

Гэта дало падставу Нацбанку знізіць стаўку рэфінансавання да 16% гадавых. Сярод фактараў, якія абгрунтоўваюць такое рашэнне, галоўны фінансавы рэгулятар называе чаканае зніжэнне інфляцыі, прырост рублёвых укладаў насельніцтва «пры павелічэнні долі новых неадкліканых дэпазітаў у структуры ўкладаў», і «чыстая прапанова замежнай валюты, у асноўным за кошт продажу валюты насельніцтвам».

Ці надоўга гэтая стабільнасць?

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Андрэй Бандарэнка



**Вязень сумлення, які знаходзіцца зараз у магілёўскай турме №4, на тыдні перажыў сапраўдны судовы канвеер.**

8 лютага Магілёўскі абласны суд разглядаў касацыйную скаргу былога кіраўніка праваабарончай арганізацыі «Платформ Інавэйшн» Андрэя Бандарэнкі на спагнанне, вынесенае яму 6 кастрычніка. Бандарэнка затрымаўся з дакладам, калі ў ягоную камеру ўвайшоў супрацоўнік турмы — гэта было расцэнена як адсутнасць дакладу. У гэтае спагнанне было ўключана яшчэ адно парушэнне — некалькі канвертаў (іх у зняволенні клеіць Бандарэнка) падаліся кантралёрам няякасна склеенымі. Праваабаронца абскардзіў спагнанне ў судзе, але 19 снежня 2016 года суд Ленінскага раёна Магілёва пакінуў скаргу без задавальнення. Менавіта гэтае спагнанне лягло ў аснову распачатай крымінальнай справы супраць праваабаронцы.

Разгляд па іншай скарзе Андрэя Бандарэнкі адбыўся ў гэты ж дзень, у 14.40, у судзе Ленінскага раёна Магілёва. Праваабаронца аспрэчвае чарговае дысцыплінарнае спагнанне, якое было накладзена 11 студзеня нібыта за тое, што ён не трымаў рукі за спінай. У выніку спагнання асуджаны быў пазбаўлены чарговага кароткатэрміновага спаткання, якое планавалася ў лютым з ягоным бацькам. Гэта было адзінае дазволенае Андрэю Бандарэнку спатканне на год.

9 лютага ў судзе Ленінскага раёна Магілёва адбылося папярэдняе пасяджэнне па крымінальнай справе Бандарэнкі па абвінавачванні ў злачынстве паводле арт. 411 КК (злоснае непадпарадкаванне патрабаванням адміністрацыі папраўчай установы). Справа адпраўлена на дапрацоўку ў пракуратуру.



## Ігар Шуневіч

**Беларуская міліцыя пачала крымінальны пераслед тых, хто псуе беларуска-расійскую інтэграцыю.**

«У мэтах прадухілення шкоды эканамічным інтарэсам Рэспублікі Беларусь падраздзяленнямі па барацьбе з эканамічнымі злачынствамі органаў унутраных спраў праводзіцца шэраг дасьледчых праверак па дзеяннях, якія змяшчаюць прыкметы злачынстваў, прадугледжаных артыкулам 249 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь («Дыскрэдытацыя дзелавой рэпутацыі канкурэнта»)», — гаворыцца ў паведамленні прэс-службы МУС.

«МУС РБ мае дадзеныя, што асобныя службовыя асобы Федэральнай службы па ветэрынарным і фітасанітарным наглядзе Расійскай Федэрацыі (Рассельгаснагляд) у інтарэсах, не звязаных з іх прафесійнай дзейнасцю, без наяўнасці дастатковых падстаў і ў парушэнне нормаў міжнароднага права абмяжоўвалі магчымасць рэалізацыі беларускай прадукцыі на тэрыторыі Расійскай Федэрацыі, а таксама ажыццяўлялі распаўсюджванне недакладнай інфармацыі, якая дыскрэдытуе айчынных вытворцаў», — гаворыцца ў паведамленні.

Паводле звестак беларускай міліцыі, «згодна з рашэннямі Рассельгаснагляду толькі ў Мінскай вобласці абмяжоўваліся пастаўкі з 96 сельскагаспадарчых прадпрыемстваў, прамыя страты якіх склалі больш за 5 мільёнаў рублёў».

«Па кожным матэрыяле будзе праведзена пільнае разбіральніцтва, а сабраныя доказы перададзеныя ў Следчы камітэт Рэспублікі Беларусь для дачы прававой ацэнкі», — паведамляецца ў заяве МУС.

## Вікторыя Азаранка

**Вядомая тэнісістка пачала трэніроўкі на корце ўсяго праз паўтара месяцы пасля родаў, піша tribuna.com.**



Да гэтага Азаранка займалася практыкаваннямі па агульнай фізічнай падрыхтоўцы.

У госці да самай вядомай беларускай тэнісісткі наведалася першая ракетка свету Серэна Уільямс. Фотаздымкі з трэніровак і сустрэчы спартовак з'явіліся ў сацыяльных сетках.

Дарэчы, пасля перамогі на «Australian Open» Серэну Уільямс спыталі, ці сумуе яна па суперніцтве з Марыяй Шарапавай і Вікторыяй Азаранка. Яна выказала надзею, што Азаранка хутка вернецца на корт. «Мне здаецца, будзе выдатна, што канкурэнцыя ўзмоцніцца. Для мяне Вікторыя заўсёды была выдатнай саперніцай. Гуляць з ёй заўсёды цікава», — заявіла амерыканка.

Азбука паліталогіі



Сяргей НІКАЛЮК

# Від з акна дома на вуліцы Сурганава

**Калі навукоўцы такія разумныя, дык чаму яны не ходзяць строем? А гэта гледзячы якія навукоўцы**




У кожнага — свая Беларусь, і кожны глядзіць на яе са свайго акна. Напрыклад, з акна Палаца Незалежнасці адкрываецца выдатны від на маладую краіну, што дынамічна развіваецца. А вось любавацца дынамікай развіцця з акна стандартнага пяціпавярховіка, які так і не дачакаўся планавага капрамонту, перашкаджае дынаміка даходаў насельніцтва: -5.9% у 2015 годзе і -7.5% за студзень-лістапад 2016 года.

2017-ы абвешчаны ў Беларусі годам навукі. З рэалізацыяй прагрэсіўных і наватарскіх ідэй у эканоміцы адзіны палітык (АП) звязвае свае надзеі на паляпшэнне якасці жыцця людзей. Пра гэта ён заявіў 26 студзеня на цырымоніі ўручэння навуковым і педагагічным работнікам дыпломаў дактароў навук і атэстатаў прафесараў.

Але эканоміка — не адзіная сфера прыкладання навукі. Бесстаронняе меркаванне кампетэнтных спецыялістаў запатрабавана дзяржаўнай ідэалогіяй. «Асабліва сёння, калі робяцца асобныя спробы паставіць пад пытанне суверэнітэт і незалежнасць нашай дзяржавы», — падкрэсліў АП.

## 10 тысяч «штыкоў»

Запатрабаванасць бесстаронняга меркавання кампетэнтных спецыялістаў дзяржаўнай ідэалогіяй упершыню была абвешчана ў сакавіку 2003 года на так званай ідэалагічнай нарадзе. Там жа была зафіксавана няздольнасць арміі дактароў і кандыдатаў навук прапанаваць што-небудзь арыгінальнае, акрамя двух банальнасцяў: «давайце зробім, як на Захадзе» або «давайце вернемся да савецкай практыкі».

Вось і давялося АП асабіста **«браць усё на сябе і, ідучы ад жыцця, а не ад тэорыі, закладаць у фундамент беларускай незалежнай дзяржаўнасці ідэі, народжаныя і выпакутаваныя нашым народам»** (выдзелена ў тэксце дакладу. — С.Н.).

Хаджэнне ад жыцця завяло ў тупік патрыятызму. Наскрэбці ж па засеках народнай мудрасці ідэй, здольных прэтэндаваць на нацыянальную самабытнасць, так і не атрымалася.

Галоўная прычына бясплоднасці акадэмічнай навукі ляжыць на паверхні. Растлумачу яе цытатай, запазычанай з апублікаванага ў снежні дакладу Вольнага гістарычнага таварыства (Расія). Натуральна, гісторыкі гавораць пра гісторыю, але іх вывад актуальны для ўсіх гуманітарных навук: «Краевугольным каменем гістарычнай навукі з'яўляецца прынцып акадэмічнай свабоды. Ніякія знешнія, пабочныя моманты, якімі б добрымі намерамі яны ні матываваліся, не павінны ўплываць на незалежнасць навуковага гістарычнага даследавання і навуковыя высновы. Для гісторыі як навукі дадзены прынцып мае асаблівае значэнне, паколькі гэта галіна ведаў найчасцей зведвае беспрэцэдэнтны ціск з боку ідэалогіі і палітыкі».

Цікавая атрымліваецца прычынна-выніковая сувязь: для таго, каб гуманітарныя навукі маглі ўнесці рэальны ўклад у распрацоўку дзяржаўнай ідэалогіі, яны павінны быць свабоднымі ад ціску з боку ідэалогіі!

У СССР армія выкладчыкаў навуковага камунізму ў ВНУ налічвала не менш за 10 тысяч «штыкоў». Але калі ў канцы 1980-х гадоў краіна апынулася на гістарычным раздарожжы, уклад спецыялістаў па «светлай будучыні чалавецтва» ў скарбонку рэформаў апынуўся нулявым. Іх колькасць не перайшла ў якасць. Ва ўмовах таталітарызму ў гуманітарных дысцыплінах аб'ектыўныя даследаванні знаходзіліся пад забаронай. Задача навукоўцаў зводзілася да абгрунтавання афіцыйных поглядаў.

## На роўных з ЗША, Кітаем і ЕС

Таталітарызм застаўся ў мінулым. Яму на змену ў Беларусі прыйшла не дэмакратыя, а сістэма, выбудаваная пад чалавека «аўтарытарнага стылю работы». Аўтар сістэмы ўпэўнены, што «яна дае, па меншай меры, свае вынікі». Ацэнка спрэчная, але не для прадстаўнікоў акадэмічнай навукі. Пераход ад таталітарызму да аўтарытарызму ніяк не адбіўся на ўзроўні аб'ектыўнасці навуковых даследаванняў.

У якасці канкрэтнага прыкладу прапаную звярнуцца да артыкула дырэктар Інстытута сацыялогіі НАН Беларусі, доктара сацыялагічных навук, прафесара Ігара Катлярова «Супольнасць адзінства ў моры хаосу і выклікаў», апублікаванага ў часопісе «Беларуская думка» (№ 12, 2016). Артыкул прысвечаны інтэграцыйным працэсам на постсавецкай прасторы.

Прапаную чытачам яго першы і апошні сказы: «Першым інтэграцыйным аб'яднаннем на руінах вялікай дзяржавы стала Садружнасць Незалежных Дзяржаў, якая сфармавалася як цэласная сістэма ўзаемадзеяння краін і нацый, розных культур і канфесій, што імкнуцца да супрацоўніцтва на адзінай каштоўнаснай платформе». Па традыцыі, якая склалася ў навуковым асяроддзі, аўтар не стаў турбаваць сябе параўнальным аналізам каштоўнасцяў.

А цяпер заключны сказ: «Садружнасць Незалежных Дзяржаў паступова стала супольнасцю адзінства ў моры хаосу і выклікаў, арганізаванай сілай барацьбы супраць рызык і біфуркацый».

Вось такая ідэалістычная карціна бачыцца з акна дырэктарскага кабінета на Сурганава, дом 1, корпус 2. Зразумела, ні слова ў артыкуле не сказана пра перманентны ваенны канфлікт паміж Азербайджанам і Арменіяй, пра выхад з «супольнасці адзінства» Грузіі пасля яе сілавога «прымусу да міру» ў жніўні 2008 года. Ні слова пра «Крымнаш» і вайну на ўсходзе Украіны.

Артыкул багата ілюстраваны гістаграмы, складзенымі на падставе сацыялагічных апытанняў. У дакладнасці дадзеных сумнявацца не даводзіцца: 65.5% беларусаў падтрымліваюць каардынацыю сумесных дзеянняў, накіраваных на стабілізацыю эканомікі краін СНД, 12% — фармаванне адзіных дзяржаўна-кіраўнічых структур і толькі 4.1% — стварэнне адзінай арміі.

Аналагічную структуру інтэграцыйных пераваг пастаянна фіксаваў НІСЭПД. «Мы, беларусы, — мірныя людзі». Мы не супраць эканамічнага супрацоўніцтва, якое дазваляе атрымліваць расійскія энерганосьбіты па льготных цэнах, але не адчуваем прыкметнага жадання ствараць адзінае войска з суседам, што пастаянна правакуе ваенныя канфлікты.

Збор дакладных дадзеных — важны, але далёка не асноўны этап сацыялагічных даследаванняў. «Ад меркаванняў — да разумення», — такі дэвіз «Лявада-цэнтра». Разуменне ж сацыяльных фактаў магчыма толькі ўнутры пэўнай «карціны свету». Яе фармаванне і з'яўляецца галоўнай задачай гуманітарных навук.

У «карціне свету» масцітага беларускага сацыёлага, навукова-тэхналагічны і вытворча-рэсурсны патэнцыял СНД здольны на роўных канкураваць з ЗША, Кітаем і краінамі Еўрапейскага саюза. Такая катэгарычная выснова робіцца, нягледзячы на тое, што ўклад «супольнасці адзінства» ў сусветны ВУП складае ўсяго 2.5%.

## 99 да 1 і 1 да 99

Здавалася б, паміж «відамі», якія адкрываюцца з вокнаў Палаца Незалежнасці і вокнаў адміністрацыйнага будынка на Сурганава, няма нічога агульнага. Але не будзем спяшацца. Нібы злучаныя пасудзіны, гэтыя выявы звязаныя паміж сабой. Ёсць заказчык. Ёсць выканаўца. Атрымаўшы жаданае, заказчык глядзіцца ў яго, нібы ў люстэрка, і лішні раз пераконваецца ў сваёй праваце. Далей працэс паўтараецца. І так год за годам, дзесяцігоддзе за дзесяцігоддзем.

«Выявы» складваюцца ў «карціну свету». Яна блізкая да ідэальнай. Нездарма ж нам усе зайздросцяць. А вытворчасць падстаў для зайздрасці мы паставілі на паток. Прыязджаюць нямецкія фермеры і зайздросцяць: «Нам бы, — кажуць, — такія латыфундыі ў 10–20 тысяч гектараў». Стасуецца Наталля Качанава (кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта) з гасцямі з Захаду — і нечакана высвятляе, што яны зайздросцяць нашай сістэме адукацыі. «А мы, некаторыя ў адукацыі, імкнёмся туды, у гэты Балонскі працэс».

А нашы дамы састарэлых! Ну як ні пазайздросціць! «Вось я пабываў там. Для мяне было галоўным тое, што 93 гады — сярэдні ўзрост у гэтым доме, што чалавек у сярэднім памірае ў 93 гады. Ды ў нас у грамадстве такога няма. А гэта — абяздоленыя старыя».

А нашы выбары! Як ні пазайздросціць узроўню дэмакратычнасці, на якім яны ў нас арганізаваныя. «Усе кажуць, што гэта не толькі сур'ёзныя выбары грамадзянскай супольнасці, але і свята для людзей».

Аднак, шчыра кажучы, варта прызнаць, што і мы часам зайздросцім. Зразумела, па-добраму. Напрыклад, зайздросцім японскай дысцыпліне. Вось як буйны японскі менеджар патлумачыў АП прычыну нашай зайздрасці: «Таму што ў вас на сотню работнікаў 99 чалавек разумных са сваім меркаваннем, адзін дурань. А ў нас, — кажа, — адзін разумны, а 99 дзейнічаюць у зададзеным кірунку — так, як кажа кіраўнік».

Нічога, мы выправімся. Сваіх разумнікаў у масавым парадку выштурхнем на Захад. Няхай там ім блытацца пад нагамі і перашкаджаць беларускім менеджэрам савецкай загартоўкі падтрымліваць вытворчую і тэхналагічную дысцыпліну на Радзіме. Гэта, па-першае. А па-другое, беларускія разумнікі, нібы засланыя казачкі, паскораць працэс загнівання заходняй цывілізацыі. Занадта ўжо зацягнуўся працэс загнівання.

Асобнае пытанне — Акадэмія навук. Незразумела, распаўсюджваць ці не на яе звыклую для нас прапорцыю 99 разумных на 1 дурня або скарыстацца парадай японскага менеджара?

Вырашыць дылему дапаможа папулярны вайсковы выраз: «Калі навукоўцы такія разумныя, дык чаму яны не ходзяць строем?» А гэта гледзячы якія навукоўцы. Нашы ходзяць. Зразумела, не ў літаральным сэнсе. Яны думаюць «у зададзеным кірунку, так, як кажа кіраўнік». Кіраўнік жа, у сваю чаргу, кажа так, як думаюць навукоўцы.

# Выканкамы застануцца буйнымі землеўласнікамі



Дзяніс ЛАЎНІКЕВІЧ

**Улады загадалі «ўдасканаліць» заканадаўства аб адабранні і выдзяленні зямельных участкаў — і ў цэлым забяспечыць «належнае выкарыстанне зямлі». Але на практыцы гэта прывядзе толькі да ўзмацнення пазіцый мясцовых выканкамаў, якія рэальна распараджаюцца зямлёй.**

### Зямлю зноў «упарадкуюць»

Паўнавартаснай прыватнай уласнасці на зямлю ў Беларусі няма — як няма, адпаведна, і рынка зямлі. Усё распараджэнне зямлёй засяроджана ў руках чыноўнікаў, у асноўным — мясцовай улады. Мала таго, што гэта само па сабе стварае глебу для карупцыі, дык яшчэ і робіць вельмі цяжкім самы розны бізнес: фермераў, будаўніча-дэвелаперскіх кампаній, інвестараў, якія жадалі б пабудаваць уласную вытворчасць, і гэтак далей.

Дый з прыватнымі ўладальнікамі зямельных участкаў рэгулярна ўзнікаюць праблемы — напрыклад, калі ў гарадах ліквідуецца прыватны сектар дзеля будаўніцтва шматкватэрных дамоў.

Апошнім часам «зямельныя» канфлікты ў трыкутніку «грамадзяне — бізнес — мясцовая ўлада» пачалі адбывацца часта, і кіраўніцтва краіны вырашыла ўмяшацца. Лукашэнка правёў адмысловую нараду па пытаннях заканадаўства аб адабранні і прадастаўленні зямельных участкаў. Пачаў ён з таго, што канстатаваў: заканадаўства, якое рэгулюе зямельныя адносіны, прыспеў час змяняць. «Я не кажу, што немагчыма карэктаваць нейкія нормы заканадаўства: і дэкрэты, і ўказы прэзідэнта, і законы падлягаюць карэкціроўцы, паколькі жыццё ідзе, усё мяняецца, — сказаў Лукашэнка. — Перадача зямлі павінна прыносіць дзяржаве эканамічную выгаду. Пры гэтым трэба выключыць залішнія адміністрацыйныя бар'еры і празмерную бюракратыю».

Кіраўнік дзяржавы нагадаў, што ў свой час зямельныя пытанні строга кантраляваліся на вышэйшым узроўні, але потым кіраўнікам абласцей была дадзеная магчымасць прымаць рашэнні на месцах, перадаючы землі інвестарам. Аднак гэта сябе не апраўдала: заканадаўства выконвалася неналежна, інвестары былі незадаволеныя, а землі рабіліся занядбанымі. «Таму я быў змушаны адмовіцца ад практыкі прадастаўлення зямельных участкаў губернатарамі і вярнуць гэта права прэзідэнту», — адзначыў Лукашэнка.

Пасля гэткай «прэлюдыі» гаворка пайшла па сутнасці. Старшыня Дзяржкаммаёмасці Андрэй Гаеў распавёў пра праект указу, які, не змяняючы канцэптуальна існуючыя падыходы да адабрання і прадастаўлення зямельных участкаў, спросціць гэтыя працэдуры, прадугледзіць механізмы абароны правоў землекарыстальнікаў і ўзмоцніць адказнасць за прынятыя рашэнні. У адказ Лукашэнка нагадаў, што добра было б яшчэ «рацыяналізаваць» парадак працы з пустуючымі і занядбанымі хатамі, а таксама распрацаваць парадак адабрання зямельных участкаў з недабудаванымі аб'ектамі. І наогул, глыбей прапрацоўваць пытанні — для чаго перадаецца зямельны ўчастак, якія аб'екты на ім будуць будавацца.

«Ці спросціць новы ўказ працэдуры прадастаўлення зямельных участкаў і змены іх мэтавага прызначэння? Ці не створаць прапанаваныя карэкціроўкі шчыліны для махінацый з зямлёй? Улічваючы звароты грамадзян, звязаныя з адабраннем зямельных участкаў для дзяржаўных патрэб, хачу даведацца, наколькі гэтыя захады паслужаць вырашэнню сітуацый, што ўзнікаюць, — сказаў кіраўнік Беларусі. — Востра стаіць пытанне аб увядзенні ў гаспадарчае абарачэнне зямельных участкаў, занятых інвестарамі, якія не выконваюць свае абавязкі. Асабліва ў Мінскай вобласці. Неабходна навесці парадак з такімі інвестарамі».

Як бачым, ніякіх рэальных зменаў у «зямельным пытанні» чакаць не даводзіцца, а пытанне аб прыватнай уласнасці на зямлю нават не падымаецца. Хутчэй, наадварот: тых інвестараў, што ўжо атрымалі зямлю ў карыстанне, мяркуючы па ўсім, будуць «нагінаць».

«Праблемы, якія ўзнікаюць пры прадастаўленні, адбіранні і эфектыўным выкарыстанні зямельных участкаў, палягаюць не столькі ў пэўных нормах заканадаўства, колькі ў яго правапрымяняльнай практыцы. Не так важна, хто будзе прымаць рашэнне пра выдзяленне ўчасткаў. Важна, хто і як будзе кантраляваць выкананне заканадаўства, умовы прадастаўлення і гэтак далей. А тут па-ранейшаму вялікая роля мясцовай выканаўчай улады і мясцовых праваахоўных органаў», — сказаў «Новаму Часу» грамадскі актывіст, каардынатар кампаніі «Генплан для мінчукоў» Дзяніс Кобрусеў.





Фота www.ru.espreso.tv

Паводле яго словаў, Адміністрацыя прэзідэнта аб'ектыўна не зможа пракантраляваць усе праблемныя моманты і будзе абапірацца на мясцовую выканаўчую ўладу, якая ўжо цяпер неэфектыўна займаецца пытаннямі выдзялення і адабрання зямельных участкаў, пры няўвазе да гэтых пытанняў праваахоўных органаў.

«Ці будуць хоць якія прыкметныя паляпшэнні, можна будзе сказаць толькі праз пэўны час. Для жыхароў Мінска мала што зменіцца, бо ў грамадзян і так мала магчымасцяў кантраляваць рашэнні і органаў мясцовай улады, і тым больш Адміністрацыі прэзідэнта. А для інвестараў зменяцца толькі дзверы канкрэтных службоўцаў, у якія яны будуць уваходзіць», — лічыць Кобрусеў.

### Будаўніцтва ў цэнтры ўвагі

На прэс-канферэнцыі 25 студзеня чыноўнікі паспрабавалі патлумачыць, якія змены чакаюцца ў святле карэкціроўкі ўказу «Аб адабранні і прадастаўленні зямельных участкаў». У асноўным выступала намесніца начальніка ўпраўлення землеўпарадкавання Дзяржкаммаёмасці Марына Астапенка, паводле словаў якой папраўкі ва ўказе не прадугледжваюць карэнных зменаў у падыходах да прадастаўлення і адабрання зямельных участкаў.

> **Апошнім часам «зямельныя» канфлікты ў трыкутніку «грамадзяне — бізнес — мясцовая ўлада» пачалі адбывацца часта, і кіраўніцтва краіны вырашыла ўмяшацца**

Галоўная навацыя дакумента — у тым, што грамадзянам дазволяць будаваць, рамантаваць і рэканструяваць свае дамы, калі яны знаходзяцца на ўчастку, які ў будучыні плануецца перадаць для дзяржаўных патрэбаў.

Дагэтуль любая рэканструкцыя або нават рамонт прыватнага дому забараняліся, калі ён знаходзіўся ў зоне прыватнага сектара, якую генпланам меркавалася адвесці, скажам, пад новае будаўніцтва. Такі «падвешаны» статус дома мог доўжыцца дзесяцігоддзямі. «Адна з істотных паправак — можна выкарыстоўваць зямельныя ўчасткі і размешчаныя на іх маёмасць і аб'екты, займаць рамонтам, дабудоўкай і гэтак далей, аж да прынццця рашэння аб адабранні зямельнага ўчастку», — заявіла Астапенка.

Паводле яе, у новым указе таксама будзе вызначана, у які перыяд і якім чынам дзяржава пакрые грамадзяніну страты ад адабрання зямельнага ўчастку і размешчаных на ім будынкаў.

Пры гэтым, аднак, уладальнікам прыватных дамоў давядзецца самім цікавіцца ў мясцовых выканкамах, ці мае дзяржава планы на занятыя імі землі. «Ну не могуць жа выканкамы самі рассылаць апавяшчэнні ўсім уладальнікам дамоў, на тэрыторыях якія мяркуецца забудоўваць!» — сказала Астапенка.

Прагучала гэта дзіўна — падатковая інспекцыя, значыць, можа разаслаць 400 тысяч апавяшчэнняў «дармаедам», а выканкам некалькі сотняў паведамленняў уладальнікам дамоў — не можа?

Сам праект новага «зямельнага» ўказу пакуль не апублікаваны. Але, у любым выпадку, відавочна, што ён будзе арыентаваны на пытанні будаўніцтва, — у тым ліку індывідуальнага.

У сярэдзіне снежня 2016-га Лукашэнка зацвердзіў Праграму сацыяльна-эканамічнага развіцця на 2016–2020 гады. Адзін момант у ёй, звязаны з жыллёвым будаўніцтвам, варта вылучыць асобна: «Асноўным кірункам будаўніцтва жылля ў бягучай пяцігодцы стане развіццё індывідуальнага жыллёвага будаўніцтва». Гэта значыць, вектар масавага жыллёвага будаўніцтва ссоўваецца з панельных шматпавярховікаў на прыватныя дамы: «з улікам устойлівай тэндэнцыі росту цікавасці грамадзян да пражывання ў індывідуальных жылых дамах, аб'ёмы будаўніцтва такога жылля будуць павялічаныя і яго доля будзе даведзеная да 40% да 2020 года ў агульным аб'ёме жылля, што ўзводзіцца».

> # 29
> **снежня прынятая пастанова Саўміну, якая загадвае «аказваць усебаковае садзейнічанне ў будаўніцтве індывідуальных жылых дамоў»**

Ужо агучаныя планы прадугледжваюць як выдзяленне ўчасткаў зямлі без бюракратычных праблемаў, так і забеспячэнне інжынернай інфраструктурай (газа-, вода-, энергазабеспячэнне). Прычым, гаворка ідзе не толькі пра буйныя і малыя гарады, але і пра ўчасткі ў сельскай мясцовасці. 29 снежня 2016 года была прынятая і пастанова Савета Міністраў №1113, якая загадвае мясцовым уладам «аказваць усебаковае садзейнічанне грамадзянам у будаўніцтве індывідуальных жылых дамоў».

План на 2017 год па развіцці індывідуальнага будаўніцтва для ўсёй краіны — 1 мільён 250 тысяч квадратных метраў, для Мінска — 20 тысяч квадратных метраў.

# Аляксей Янукевіч: якой будзе Беларусь

Алесь КІРКЕВІЧ

**Старшыня легендарнага БНФ у гэтым годзе збіраецца пакінуць сваю пасаду, перадаўшы структуру новаму лідару. Чым палітыку запомніліся амаль восем гадоў кіравання і якія прагнозы ў яго наконт будучыні як партыі, так і ўсёй краіны?**

**Нават у часы Пазьняка БНФ не быў партыяй вакол ці дзеля адной асобы. Народны фронт — партыя нацыянальнай ідэі. Менавіта моц нацыянальнай ідэі аб'ядноўвае нас і вядзе наперад. Старшыні змяняюцца — каштоўнасці застаюцца нязменнымі. Вось формула поспеху**

*— Што было першым сур'ёзным выпрабаваннем на пасадзе старшыні?*

— Калі я стаў старшынёй партыі, ужо распачыналася прэзідэнцкая кампанія 2010 года. Я ясна бачыў неабходнасць вылучэння партыйнага кандыдата, і гэта сталася нашым прыярытэтам. Упершыню з 1994 года партыя БНФ вылучыла свайго кандыдата. Я гэтым ганаруся і ўдзячны Рыгору Кастусёву і ўсім франтаўцам — мы здолелі. Гэтае рашэнне ды гэтая праца былі вельмі важныя, бо мы вярнулі вартасць нацыянальных інтарэсаў у палітыку.

Пасля брутальнага разгону Плошчы–2010 сядзіба Партыі БНФ сталася цэнтрам салідарнасці, якая ўсіх уразіла: стаялі чэргі людзей, каб ахвяраваць грошы, рэчы, прадукты для тых, хто знаходзіўся ў турмах. Гэтая салідарнасць уразіла і афіцыйныя ўлады: у 2011-м, на хвалі зачысткі дэмакратычнага руху, мы былі пазбаўленыя свайго офіса, які быў зручны для працы і вядомы сярод людзей.

*— Сапраўды, той офіс быў легендарным — гэта, мабыць, вялікая страта для партыі…*

— Безумоўна. Але, калі б вярнуцца ў тую сітуацыю, ужо ведаючы наступствы, — усё адно, я не стаў бы і думаць пра тое, што можна захаваць памяшканне, адмовіўшыся ад акцыі салідарнасці. Часам трэба рабіць тое, што трэба, не зважаючы на наступствы. І мы так і рабілі.

Было цяжка, але ў выніку мы знайшлі новы штаб на Чарнышэўскага, 3 ды цалкам аднавілі ўсе ранейшыя функцыі. Фактычна, наш офіс працуе як дэмакратычны грамадскі цэнтр. Яго ўтрыманне каштуе вялікіх высілкаў, але яны таго вартыя.

Таксама я ганаруся, што пасля падзей 2010 года, ніхто з актывістаў БНФ не з'ехаў за мяжу. Хоць былі іператрусы, і ціск на людзей… Я не асуджаю нікога за эміграцыю, тым больш, што некаторыя цяпер вяртаюцца. Але сябры БНФ засталіся тут, гэта вельмі моцна.

## «Падтрымка Караткевіч у 2015-м — мой пралік»

*— Далей БНФ удзельнічаў у кампаніі «Народны рэферэндум», так?*

— Так, і гэтую кампанію я, асабліва на першым этапе, ацэньваю пазітыўна. Нагадаю сітуацыю 2011–2012 гадоў: грамадства дэмаралізаванае, шмат дэмакратаў раз'ехаліся па Еўропе ды ваколіцах, а папярэднія схемы, арыентаваныя на вулічны пратэст і Плошчу, наўпрост «разбіліся аб рэчаіснасць» у 2010-м.

Патрэбная была перазагрузка палітычнага супрацоўніцтва, то бок ідэя, якая б прапанавала людзям не занадта самаахвярную форму палітычнай дзейнасці. Важна было давесці людзям, што, няхай мы не можам разлічваць на хуткую перамогу ў лабавой франтальнай атацы, але рукі апускаць нельга. Што нават у гэтай зацíснутай сістэме ёсць пэўная прастора дзеля палітычнай працы на карысць пераменаў. У дадзеным выпадку гэта быў збор подпісаў ды ініцыятыва аб рэферэндуме.

*— А што наконт выбараў 2015 года?*

— Партнёрства з «Гавары Праўду» заўсёды было для нас толькі тактычным. Мы разумелі, што нашы шляхі з ГП разыдуцца, але я разлічваў, што гэта адбудзецца ўжо тады, калі «будзе што дзяліць». То бок я меркаваў, што ГП здольныя весці доўгатэрміновую гульню. Аднак я пралічыўся. Атрымалася, што гэты канфлікт адбыўся раней. Таму ў 2015-м даводзілася зрабіць досыць круты віраж: на пачатку мы падтрымалі Таццяну Караткевіч, сумленна збіралі за яе подпісы, але пасля выйшлі з кампаніі.

*— Але ўсё ж чаму?*

— Вельмі ясныя прычыны. Першая — з'явіліся моцныя падставы сумнявацца ў сумленнасці дзеянняў кіраўніцтва ГП у гэтай кампаніі. Другая — рыторыка Таццяны Караткевіч стала для нас катэгарычна непрымальнай.

Рашэнне аб выхадзе з кампаніі не было простым, але большасць у Сойме партыі мяне падтрымала, і мы яго прынялі. Пазней мы неаднаразова пераканаліся, што такое рашэнне было адзіным слушным.

## «Адсутнасць замежных вайсковых базаў — таксама і заслуга БНФ»

*— «Народны рэферэндум» пасля спыніў сваё існаванне?*

— Так, але мы і дагэтуль карыстаемся напрацоўкамі той кампаніі. З нашай прапановы ў праграму «Народнага рэферэндуму» быў уключаны пункт пра замежныя вайсковыя аб'екты на тэрыторыі Беларусі. Мы ўтрымлівалі гэтую тэму ў цэнтры грамадскай увагі, пакуль іншыя хапаліся за больш кан'юнктурныя тэмы. Я ўпэўнены — у значнай ступені праз пазіцыю і працу БНФ у Беларусі дагэтуль няма расійскіх вайсковых баз. Спадзяюся, і не з'явіцца. Надалей жа мы вырашылі ўстрымлівацца ад уваходжання ў палітычныя кааліцыі ды ісці сваім шляхам самастойна.




XII з'езд БНФ, на якім Аляксей Янукевіч быў абраны старшынёй. 5 верасня 2009 года. Фота Юрыя Дзядзінкіна

*— Як вы ацэньваеце апошнюю парламенцкую кампанію?*

— У 2016-м падчас парламенцкіх выбараў мы вылучылі самую вялікую колькасць кандыдатаў: як сярод дэмакратычных арганізацый, так і за ўсю гісторыю БНФ. У некаторых раёнах кандыдаты ад нашай партыі з'явіліся ўпершыню за 20 гадоў. Мы адзіныя з усіх удзельнікаў выбарчай кампаніі распрацавалі паўнавартасную выбарчую платформу, дзе выкладзеныя дэталёвыя прапановы па ўсіх найбольш важных сферах: эканомікі, сацыяльнай палітыцы, нацыянальнай бяспецы ды абароне. У нас не атрымалася забяспечыць кампаніі нашых кандыдатаў належнымі матэрыяльна-тэхнічнымі рэсурсамі, гэта мінус. Але агулам гэта была вельмі важная кампанія і здабытак.

## «Калі чалавек прыходзіць у БНФ — гэта на ўсё жыццё»

*— Ёсць стэрэатып пра БНФ як пра партыю немаладую ў плане ўзросту сваіх сяброў. Ці праўда?*

— Не, гэта не адпавядае рэчаіснасці. У Фронце ёсць людзі ўсіх пакаленняў, багата моладзі. Я мяркую, у нас самы малады Сойм з усіх партый, як дэмакратычных, так і праўладных. Стала адбывацца абнаўленне кіраўніцтва і ў рэгіянальных структурах. Пры гэтым, натуральна, для нас ёсць вялікім здабыткам, што ветэраны партыі, якія прыйшлі ў 1990-х, не сыходзяць і працягваюць працаваць. Але, на жаль, людзі не вечныя. 2016-ы быў таксама і годам балючых стратаў. Пайшлі з жыцця многія яскравыя асобы, якія ахвяравалі дзесяцігоддзі свайго жыцця змаганню за нацыянальныя каштоўнасці ў шэрагах БНФ. Фактычна, калі чалавек прыходзіць у БНФ — гэта на ўсё жыццё.

*— Хто такі сярэднестатыстычны сябар БНФ?*

— Галоўны фактар, які яднае франтаўцаў — адданасць нацыянальным каштоўнасцям. Натуральна, такія людзі ёсць у розных сацыяльных групах. Адпаведна, у БНФ ёсць і прадпрымальнікі, і працоўныя, і навукоўцы, і дактары, і камп'ютаршчыкі і г.д. Сацыяльны склад вельмі разнастайны.

## «Рана ці позна моладзь прабе сцяну!»

*— Сёння ў моладзі мноства магчымасцяў «прычасціцца» да беларушчыны: «Мованова», фэсты, канцэрты «Brutto»… Навошта ім БНФ?*

— У Моладзь БНФ у 2016 годзе стала масава прыходзіць новае пакаленне, з'явіўся новы лідар, моцнае кіраўніцтва ў Мінску ды іншых гарадах, арганізацыя развіваецца вельмі дынамічна.

Натуральна, Моладзь БНФ таксама ходзіць на канцэрты «Brutto», моўныя курсы і г.д. Але тая моладзь, якая прыходзіць да нас, разумее важнасць палітычнай дзейнасці і гатовая браць адказнасць за будучыню Беларусі на сябе. Гатовыя праводзіць палітычныя кампаніі, вылучацца кандыдатамі (толькі Моладзь БНФ, без уліку партыі, збіраецца выставіць на бліжэйшых выбарах у мясцовыя саветы 50 кандыдатаў. — НЧ). І я лічу, што гэта файна, калі людзі, якія не маюць горкага досведу паразаў, шчыра і энергічна ўкладаюцца ў працу — бо вераць, што атрымаецца. І рана ці позна менавіта яны праб'юць гэтую сцяну!

*— То бок, гэта праца на перспектыву?*

— Так, безумоўна. Да нас далучаецца тая моладзь, якая разумее, што, каб над Домам Ураду залунаў бел-чырвона-белы сцяг, хадзіць на канцэрты «Brutto» — недастаткова.

## «Мабілізаваць аднадумцаў, сярод якіх часам пануюць панічныя настроі»

*— Зараз актуалізавалася пагроза з боку «рускага свету», пра якую БНФ казаў апошнія 25 гадоў. Што партыя робіць, каб бараніць незалежнасць сёння?*

— Час, у які мы жывём, шмат у чым вызначальны. Ён нясе і вялікія шанцы, і вялікія пагрозы. Найперш мы даводзім грамадству разуменне таго факту, што незалежнасць — найвялікшая каштоўнасць, за якую трэба змагацца. І мы бачым, што гэта думка ўсё больш і больш пачынае ўмацоўвацца ў галовах людзей. Наш прыярытэт сёння — скіраваць увагу беларусаў на канкрэтныя пагрозы ды паказаць шляхі, як нам адстаяць сваю краіну.

Важны і эканамічны бок незалежнасці: імкнёмся тлумачыць і паказваць, што толькі ўзмацненне сваёй дзяржавы можа

# «Барацьба вядзецца за тое, пасля Лукашэнкі»




Аляксей Янукевіч з маладымі паплечнікамі на мітынгу 25 сакавіка

забяспечыць больш годнае, заможнае і бяспечнае жыццё беларусаў. Расія ж кідае шалёныя рэсурсы на інфармацыйную вайну, каб пераканаць, што разам з РФ альбо ў яе складзе жыццё будзе лепшым.

***— А ці ёсць доля праўды ў тым, што кажа расійская прапаганда? Тыя ж сілавікі там атрымліваюць сапраўды больш...***

— Любая хлуслівая прапаганда дадае 10% праўды ў 90% хлусні, выліваючы ўсё гэта на галовы людзей. І гэтыя 10% не робіць хлусню хаця б часткова праўдзівай, яны толькі дапамагаюць хлусні выглядаць праўдзіва. Калі казаць пра сілавікоў — натуральна, ёсць нейкая частка ў іх шэрагах, якія лічаць сябе (і насамрэч з'яўляюцца) нашчадкамі камісараў ды НКУСаўцаў, для якіх служба — гэта пытанне грошай і прывілеяў ды надзея на аднаўленне таталітарнай імперыі. Гэтыя вераць усяму, што гаворыць Масква. Некаторыя з іх маюць уплыў і займаюць важныя пасады, але агулам яны складаюць мізэрную частку беларускіх грамадзян ды знаходзяцца ў яўнай меншасці сярод беларускіх сілавікоў.

Шмат хто з прыхільнікаў нацыянальнага руху зараз выглядае засмучаным. Маўляў, капец усім, грамадства замбаванае, войска несвядомае, Пуцін у любы момант з'есць Беларусь. А мы кажам: не! Трэба працаваць і мабілізоўваць не толькі грамадства, але і тых аднадумцаў, сярод якіх зараз пануюць панічныя настроі. Так, ёсць пагроза, і яна сур'ёзная. Але ёсць рэсурс, ёсць чалавечы капітал, ёсць сіла ў грамадстве супрацьстаяць пагрозе нават пры самых горшых сцэнарах. Абуджаць волю да барацьбы і да перамогі — гэта таксама наша місія.

### «Масква выкарыстае гвалт супраць Лукашэнкі? Сумняваюся»

***— 2017 год абяцае быць вельмі трывожным. Кажуць і пра «ўварванне з усходу», і пра «крымскі сцэнар» для Беларусі... Які ваш прагноз, і што БНФ можа супрацьпаставіць падобным выклікам?***

— Я не падзяляю самых змрочных прагнозаў на 2017-ы. Безумоўна, барацьба вакол эканамічных ды вайсковых пытанняў паміж Крамлём і Лукашэнкам будзе працягвацца, ды нават абвострацца. Невядома, якую ролю ў свеце будуць граць ЗША з прыходам Трампа. Тым не менш, лейтматывам усяго, што будзе адбывацца ў Беларусі, стане барацьба паміж прыхільнікамі «рускага свету» і патрыётамі тут, у нас. І адбывацца гэта будзе па-за межамі дыскурсу «Пуцін/Лукашэнка».

Рэальная барацьба вядзецца за тое, якой будзе Беларусь пасля Лукашэнкі. Бо тое, што будзе адбывацца, пакуль ён пры ўладзе, усім збольшага і так зразумела. Усе зацікаўленыя бакі разумеюць, што на гэта кардынальна паўплываць даволі складана.

***— У Масквы ёсць рэсурс, каб паспрабаваць замяніць Лукашэнку?***

— Так, але для іх гэта рызыкоўны сцэнар, бо невядома, чым ён можа абярнуцца. Так, у 2018-м у Расіі прэзідэнцкія выбары, і некаторыя кажуць, што перад імі Пуціну патрэбныя новыя здабыткі, перамогі — гэта праўда. Але Пуціну не патрэбныя і новыя сур'ёзныя праблемы, таму я не лічу, што ён пойдзе на рызыку.

А вось барацьба за розумы і душы беларусаў, канечне, абвострыцца. Расія праз свае рычагі будзе надалей імкнуцца дамагчыся ад Лукашэнкі саступак, перадусім у вайсковай сферы. Зразумела, што ён будзе супраціўляцца, бо гэта пытанне яго ўлады, за якую ён трымаецца і будзе трымацца. Але асноўнае змаганне адбудзецца за настроі і думкі беларускага грамадства. Мы мусім быць хуткімі, эфектыўнымі, пераканаўчымі. Трэба не толькі паказаць народу наш шлях і пераканаць у яго слушнасці, але і быць здольнымі абараніць вольны выбар новай Беларусі ў выпадку нашай перамогі.

Я сумняваюся, што Масква выкарыстае гвалтоўны сцэнар супраць Лукашэнкі, а вось супраць наступнай персоны ці новага дэмакратычнага ўраду — цалкам магчыма. Таму нам трэба ўжо зараз рыхтавацца і мець дэталёвы план, як абараніць свядомы выбар беларусаў. Больш за тое, вельмі вялікая небяспека для нашай краіны ўжо сёння палягае ў тым, што Крэмль імкнецца выкарыстаць «мяккі» захоп уплываў, маніпулюючы грамадскім меркаваннем праз тэлеканалы, і агентурай у чыноўніцтве.

***— Падчас міжнародных сустрэч вы агучваеце падобныя сцэнары перад замежнымі палітыкамі?***

— Калі на такіх сустрэчах на высокім узроўні мяне запытваюць: «Што мы можам зрабіць для Беларусі?», я кажу наступнае. Па-першае, аказваць максімальны ціск на Крэмль, каб ён не дазваляў сабе лезці ў нашы ўнутраныя справы. Па-другое, падтрымліваць усе структуры (незалежныя СМІ, арганізацыі ды ініцыятывы), якія працуюць дзеля ўмацавання нацыянальнай ідэнтычнасці. Па-трэцяе, распрацаваць план па абароне дэмакратычных змен, якія будуць адбывацца ў Беларусі.

На прыкладзе Украіны мы бачым, што ніхто (у тым ліку лідары Еўропы ды ЗША) не ведаў, што рабіць у крытычны момант, што і дазволіла Расіі забраць Крым, ажыццявіць свой сцэнар на Данбасе. Таму мы заклікаем, каб розныя варыянты развіцця сітуацыі і рэакцыя на іх пралічваліся ўжо цяпер на міжнародным узроўні.

### «Кіраўнікі змяняюцца, каштоўнасці застаюцца»

***— Давайце вернемся «з нябёсаў на зямлю»... Сёлета ў верасні пасля з'езду партыя будзе мець ужо новага кіраўніка. Хто гэта можа быць?***

— БНФ — дэмакратычная арганізацыя, таму асобу новага кіраўніка не можа прызначыць ні старшыня, ні нават Сойм. Гэтае рашэнне прыме толькі з'езд. Я перакананы, што новым кіраўніком будзе сур'ёзная, самастойная, камандная асоба. Кола прэтэндэнтаў на пасаду старшыні, якіх разглядае цяперашняе кіраўніцтва, уключае 5–6 асобаў, імёны якіх я не хацеў бы агучваць, пакуль не прынятае канчатковае рашэнне. Сярод іх як мужчыны, так і жанчыны. Але мы прадбачым шмат прэтэндэнтаў, у тым ліку самавылучэнцаў, і, паўтаруся, канчатковы выбар зробіць толькі з'езд.

***— Не страшна «здаваць пост»?***

— Не-не... Нават у часы Пазьняка БНФ не быў партыяй вакол ці дзеля адной асобы. Народны фронт — партыя нацыянальнай ідэі. Менавіта моц нацыянальнай ідэі аб'ядноўвае нас і вядзе наперад. Старшыні змяняюцца, каштоўнасці застаюцца нязменнымі. Вось формула поспеху.



Аляксей Янукевіч прамаўляе на мітынгу



Аляксей Янукевіч узнагароджвае Змітра Дашкевіча памятным знакам за ўдзел у «вулічнай барацьбе»




Аляксей Янукевіч з калегамі па «Народным рэферэндуме» — Андрэем Дзмітрыевым і Юрасём Губарэвічам. Фота «Еўрарадыё»

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ЗША. Забраць Twitter у Трампа

Амерыканская прэса звярнулася да кампаніі Twitter Inc — уладальніка папулярнай платформы мікраблогінгу, каб пазбавіць Дональда Трампа магчымасці выкладаць твіты. Трамп — першы прэзідэнт у гісторыі Злучаных Штатаў, які асабіста «сядзіць» у Twitter. У прынцыпе, акаўнты ў Twitter мелі і папярэднія прэзідэнты, аднак, хутчэй, гэта была даніна модзе — паведамленні часцей пісалі супрацоўнікі прэс-службы. Твіты Трампа часам вельмі эмацыйныя і агрэсіўныя, што, на думку журналістаў, можа выклікаць неадназначную рэакцыю ў свеце. Акрамя таго, не выключана, што хакеры могуць узламаць Twitter Трампа, і ад яго імя закінуць у інфапрастору нейкія правакацыйныя тэмы, здольныя выклікаць палітычныя і эканамічныя землятрусы. Цікава, што раней акаўнт Трампа ўжо быў атакаваны. Адміністрацыя Twitter Inc адказала на запыты журналістаў. У паведамленні гаворыцца, што акаўнт Трампа мае асабісты пратакол, і, як следства, узламаць яго будзе не так проста.

**Паводле амерыканскай прэсы**

### УЗБЕКІСТАН. Узбекі вывучаюць прэзідэнта

Надзеі ўзбекскага грамадства на тое, што новы прэзідэнт Шаўкат Мірзіёеў трошкі зменіць стыль кіравання краінай, пакуль не спраўджваюцца. Прыклад таму — з'яўленне ў крамах кнігі аўтарства новага гаранта. Кніга называецца вельмі незвычайна: «Крытычны аналіз, жорсткая дысцыпліна і персанальная адказнасць павінны стаць паўсядзённай нормай у дзейнасці кожнага кіраўніка». У аснову кнігі лёг даклад Мірзіёева на пасяджэнні Кабміна Узбекістана. Кніга кіраўніка выдадзена найбуйнейшым у рэспубліцы выдавецтвам «Узбекістон» — тым самым, што раней рэгулярна выпускала кнігі пад аўтарствам Іслама Карымава. Прычым, у афармленні вокладкі крэатывіць не сталі — выкарысталі ўжо існуючы шаблон кніг Карымава. З улікам таго, што афіцыёз характарызуе кнігу Мірзіева як прыклад «глыбокага аналізу», мала хто сумняваецца, што ў хуткім часе варта чакаць уключэння «Крытычнага аналізу» ў школьную і універсітэцкую праграмы навучання, як было з творамі Карымава.

**Паводле ўзбекскай прэсы**

### УКРАІНА. Размаўляйце па-данбаску!

Навукоўцы Данецкага нацыянальнага ўніверсітэта ўразілі сусветную філалогію, заявіўшы пра існаванне «данбаскай мовы». Навуковае вывучэнне «данецкай гаворкі» і яе вытокаў пачалося ў Данецкам універсітэце ў межах праекта «Донецкий региолект», вынікам якога стане стварэнне слоўніка і метадычных дапаможнікаў. Існаванне магутнай данбаскай мовы тлумачыцца ў тым ліку тым, што Данбас заўжды быў нацыянальнай салянкай. Акрамя таго, тут выкарыстоўваюць шмат словаў, якія звязаныя з прафесіяй шахцёраў. Ужо агучаны першыя словы са слоўніка данбаскай мовы. Напрыклад, «дэрыбас», што значыць памылка, або «гаплык» — канец усяму. Большасць філолагаў лічаць, што данецкі лінгвістычны праект будзе падобны да спробы прыдумаць «адэскую мову». Цікава, што стварэнне «данбаскай мовы» прафінансаваў фонд «Русский мир», які знаходзіцца ў Піцеры. Палітызацыя лінгвістыкі — нешта новае ў расійскай знешняй палітыцы.

**Паводле расійскай і ўкраінскай прэсы**

### АЎСТРАЛІЯ. Закрыць кантынент

У Аўстраліі не спыняюцца скандалы, выкліканыя святкаваннем Дня Аўстраліі. Ён адзначаецца штогод 26 студзеня, і лічыцца, што менавіта ў гэты дзень у далёкім 1788 годзе брытанскі флот дасягнуў кантынента. Між тым, у канцэпцыі свята ёсць відавочная супярэчнасць — яшчэ да адкрыцця Аўстраліі тут жылі абарыгены, супраць якіх каланісты адразу пачалі неабвешчаную вайну, якая, дарэчы, мела таксама характар культурнага генацыду — у выніку асіміляцыі тубыльцаў было знішчана прыкладна 330 моваў. Як следства, тубыльцы і грамадскія актывісты выступаюць за рэформу свята, і нават чагосьці дамагліся — з падручнікаў і афіцыйнага лексікону знік тэрмін «зямля, якая не належала нікому» — так называлася Аўстралія да прыбыцця каланістаў. І вось новы поспех — у гэтым годзе муніцыпалітэт маленькага гарадку Фрэмантл, што на захадзе краіны, пастанавіў праігнараваць 26 студзеня, паколькі гэта — «дзень акупацыі». Затое 28 студзеня тут адзначылі свята атрымання новымі эмігрантамі аўстралійскіх пашпартоў. Інавацыя не спадабалася федэральнаму ўраду, дзе пабачылі ў гэтым прыкметы сепаратызму. Канбера даслала рэзкі цыркуляр — святкаваць Дзень Аўстраліі, аднак муніцыпальныя ўлады адмовіліся падпарадкавацца афіцыйнаму календару і абвясцілі, што 14 сакавіка правядуць другі этап святкавання з нагоды атрымання пашпартоў. Пакуль не зразумела, якім будзе фінал гэтай незвычайнай канфрантацыі.

**Паводле брытанскай прэсы**



Фота www.handelsblatt.com

# Францыя: Абвал сістэмы

Алег НОВІКАЎ

**Менавіта абвалам сістэмы называе французскі журналіст Аляксандр Чукаеў тое, што адбываецца ў прэзідэнцкай кампаніі Францыі.**

***— Гэтая выбарчая кампанія ўнікальная, у тым ліку, бясконцай зменай фаварытаў. Спачатку ўсе прарочылі поспех Ніколя Саркозі. Потым кандыдатам нумар адзін стаў Алан Жупэ. Аднак на праймерыз рэспубліканцаў перамог Франсуа Фіён, якому сталі прадказваць перамогу. І вось кандыдат ад рэспубліканцаў уцягнуты ў скандал: стала вядома, што былы прэм'ер аформіў жонку Пенелопу памочнікам, а дзяцей — у якасці кансультантаў. Чым скончыцца «Пенелопагейт»?***

— Цяжка сказаць, бо Фіён сцвярджае, што меў месца «гібрыдны пераварот», спрабуе даказаць, што ўсё было ў межах закону. Сапраўды, ніхто не забараняе працаўладкоўваць сваякоў кансультантамі, але яны павінны працаваць. Аднак Пенелопа, мяркуючы па дакументах, на працы нават не з'яўлялася. Усіх таксама шакуе сума, якую яна і яе дзеці атрымалі ў выглядзе акладаў «за кансультацыі», — каля 900 тысяч еўра. Але праблема ў іншым. Нечакана тэма маральнасці палітыкаў стала топавай, а практычна ўсе правыя палітыкі ў свой час прасоўвалі сваякоў, адмывалі грошы. Таму замену Фіёну знайсці цяжка, а сам ён моцна зваліўся ў рэйтынгах.

***— Яшчэ адной сенсацыяй кампаніі сталі вынікі праймерыз сацыялістаў, на якіх перамог абсалютна не вядомы ў нашых шыротах Бенуа Амон. Хто ён і чаму перамог?***

— Бенуа Амон — выхадзец з моладзевага крыла Сацпартыі часоў Ліянеля Жаспена. Тады ў партыі ўзнікла група «Новыя левыя», якая спрабавала ўзурпаваць спадчыну Франсуа Мітэрана. Поспех Амона на праймерыз тлумачыцца ўдзелам у іх прэм'ера Мануэля Вальса. Вальс вельмі не папулярны сярод актыву Сацпартыі, паколькі лічыцца стаўленікам яшчэ больш нялюбага Франсуа Аланда. Тым больш, што напярэдадні праймерыз урад узняў тарыфы на электрычнасць, якія сапраўды трохі кусаюцца. У Францыі памяшканні абаграваюцца электрапрыборамі, і рахунак за электраэнергію лёгка можа складаць больш за 100 еўра. Не дзіўна, што Вальса «пракацілі», прагаласаваўшы за яго галоўнага крытыка злева — Бенуа Амона. Аднак шанцаў у Амона стаць прэзідэнтам няма. Дастаткова сказаць, што яго імя найбольш вядомае выбаршчыку скандальным абяцаннем — легалізаваць марыхуану.

***— Вышэй згаданы «Пенелопагейт» падарваў пазіцыі Фіёна, што дазволіла Марын Ле Пэн захапіць лідарства ў гонцы...***

— Сапраўды, Марын Ле Пэн рэзка пайшла ўгару, але не толькі дзякуючы скандалу з Фіёнам. У прынцыпе, у грамадстве пазітыўна ацэньваецца яе перадвыбарчая праграма, якая была апублікаваная на мінулым тыдні. Марын абяцае павышэнне працоўным заробку, і нават хоча ўвесці штрафы за звальненне. Бізнесменам у якасці кампенсацыі абяцаюць перавагу перад замежнымі прадпрыемствамі. Фронт хоча матэрыяльна падтрымліваць сілавікоў і вайскоўцаў.

Ле Пэн відавочна аслабіла нацыяналістычны ўгар у сваіх публічных выступах. Усё часцей яна агучвае старую ідэю сацыялістаў 1970-х гадоў, якія казалі: мы не супраць міграцыі, аднак давайце запрашаць спецыялістаў (штогод Францыя мае патрэбу ў 200–300 тысячах кваліфікаваных работнікаў). У Ле Пэн зараз больш асцярожная знешнепалітычная праграма. Цяпер яна часцей кажа, што Францыя можа адстойваць нацыянальныя інтарэсы ўнутры Еўрасаюза. Але на самай справе мне асабіста не верыцца ў гармонію ўнутры ЕС у выпадку перамогі Ле Пен. Агульнавядома, што яна асабіста ненавідзіць Меркель.

***— Нягледзячы на лідарства Ле Пэн, у другім туры, яна, паводле апытанняў, саступае незалежнаму кандыдату Эмануэлю Макрону, лідару левалібэральнага праекту «En marche».***

— Пакуль перамога Макрона не выглядае відавочнай. Перш за ўсё, ён лічыцца галоўным аўтарам скандальнага закона аб зменах у працоўны кодэкс, які выклікаў незадаволенасць прафсаюзаў. Апаненты на левым флангу ахвотна ўзгадваюць яго працу ў апараце Франсуа Аланда. Што тычыцца правых, дык яны характарызуюць Макрона як «кар'ерыста», паколькі ніякай каманды і выразнай праграмы ў палітыка практычна няма. Гэта ж тычыцца і знешнепалітычных поглядаў. Макрон абяцае, што будзе саюзнікам Трампа, хоць ён выхадзец з Сацпартыі, а сацыялісты ўспрымаюцца амерыканскімі рэспубліканцамі як нешта інфернальнае. Калі ў фінал выйдзе Ле Пэн і Макрон, той жа Фіён, як кансерватар, хутчэй за ўсё, асцярожна выкажа сімпатыю Марын. Трэба прызнаць — зараз у яе ўнікальны шанец.

***— Хоць у кампаніі яшчэ далёка да кульмінацыі, ці можна ўжо зараз зрабіць нейкія глабальныя высновы?***

— Гэта абвал сістэмы. Перш за ўсё, сістэмы партыйнай канкурэнцыі. Партыі губляюць ідэалагічны базіс і ператвараюцца ў нейкія падпоркі пад амбітных палітыкаў. Дзіка гучыць, калі цяперашнія сацыялісты, якія змагаюцца з прафсаюзамі, называюць сябе спадкаемцамі традыцый Жана Жарэса. Хутчэй за ўсё, Сацпартыя развaліцца з-за ўнутраных супярэчнасцяў. Але і ў правым лагеры сітуацыя не радуе. Калі ў Сацпартыі дастаткова маладых лідараў, якія цягнуць коўдру на сябе, дык у правых практычна няма яркіх маладых фігур. Думаю, як мінімум пасля кампаніі 2017 года Францыя атрымае новую партыйную палітру. Не выключана, што таксама пачнуцца дэбаты за VI рэспубліку.

# Шэнген прыходзіць на Каўказ

Алег НОВІКАЎ

**Атрыманне грузінамі бязвізавага рэжыму з ЕС — важная падзея не толькі для Грузіі, аднак і для ўсёй постсавецкай прасторы, і нават для працэсаў глабальнай палітыкі.**



Фота www.balticreporter.com

Трэба адразу сказаць, што рашэнне Еўрапарламента ад 3 лютага яшчэ не азначае заканчэнне працэдуры візавай лібералізацыі для Грузіі. Аднак усе разумеюць, што цяпер «бязвізішвілі» (так жартам называюць бязвізавы рэжым для грузін) — справа часу. Лічыцца, што першыя грузіны наведаюць ЕС без візаў ужо ў сакавіку.

Навіны з Брусэлю, натуральна, былі ўспрынятыя на беразе Куры з вялікім энтузіязмам. Сацыяльныя сеткі перапоўненыя віншаваннямі, а прэм'ер Іраклій Гарыбашвілі нават паведаміў, што адразу ж пасля запуску бязвізавага рэжыму выправіцца ў Еўропу разам з першай партыяй прадстаўнікоў грузінскай моладзі.

Радасць Гарыбашвілі зразумелая. Рашэнне ЕС, безумоўна, дапамагло стабілізаваць цяперашні палітычны рэжым, сяброў якога апазіцыя намагалася выяўляць як агентаў Масквы. На хвалі эйфарыі ад бязвізу ўрадавай партыі «Грузінская мара» будзе значна прасцей правесці задуманую канстытуцыйную рэформу. Маргіналізаванай апазіцыі з лагеру Саакашвілі застаецца толькі нагадваць пра тое, што менавіта ён у свой час запусціў праект еўраінтэграцыі Грузіі.

«Калі я пасля «рэвалюцыі ружаў» у 2003 годзе ўзняў сцяг Еўропы ў цэнтры Тбілісі перад парламентам, з мяне здзекаваліся практычна ўсе. (...) А сёння Грузія нарэшце атрымала бязвізавы рэжым. Так што ніколі не смейцеся з ідэалістаў, яны і рухаюць свет», — такім паведамленнем адрэагаваў на навіны пра візы Міхаіл Саакашвілі.

У Тбілісі таксама спадзяюцца, што «бязвіз» будзе садзейнічаць інтэграцыі краіны. Тут ужо заявілі, што вольна падарожнічаць у ЕС могуць абхазы і асеціны, якія маюць грузінскі пашпарт. Такая перспектыва яўна спалохала Сухумі і Цхінвалі. Абхазскі МЗС назваў прапанову «бязвізу» «чарговай нязграбнай спробай тбіліскіх уладаў уцягнуць грамадзян Рэспублікі Абхазія ў палітыка-прававую прастору Грузіі». У мясцовай прэсе нават пачалася завочная кампанія супраць тых, хто скарыстаецца грузінскім «бязвізам». Такіх называюць здраднікамі народу і незалежнасці.

Негатыўна адгукнуліся на лібералізацыю і расійскія медыя. Калі верыць ім, «бязвіз» створыць масу праблем для Грузіі. Нібыта новыя візавыя правілы выклічуць цунамі эміграцыі і дэмаграфічны крызіс. У якасці прыкладу прыводзіцца Малдова, якая ў свой час першая сярод краін СНД атрымала аналагічны візавы рэгламент з ЕС, і зараз стабільна ўваходзіць у дзясятку сусветных краін — лідараў па колькасці эмігрантаў.

У Грузіі дэмаграфія таксама кульгае. У 2015-м на сходзе грузінскіх дыяспар прэм'ер-міністр агучыў прыблізную ацэнку міграцыйных страт з моманту развалу СССР — «паўтара-два мільёны» пры цяперашнім насельніцтве краіны ў 3,7 мільёна чалавек. Грузінскія палітолагі дапускаюць, што нейкая частка моладзі, сапраўды, пад выглядам турыстаў будзе шукаць працу ў Еўрасаюзе, аднак катастрофы маштабаў Косава (адсюль у ЕС

**У Тбілісі ўжо заявілі, што вольна падарожнічаць у ЕС могуць абхазы і асеціны, якія маюць грузінскі пашпарт. Такая перспектыва яўна спалохала Сухумі і Цхінвалі**

збегла ўжо 25 працэнтаў працоўнай моладзі) чакаць нельга. На ўсялякі выпадак грузінскія ўлады рыхтуюцца да правядзення масавай прапагандысцкай кампаніі: грамадзянам краіны будуць тлумачыць, што бязвізавы рэжым не дае ім права на працу ў Еўрасаюзе.

Істэрыка ў Маскве выклікала цікавую рэакцыю ў грузінскім экспертным асяроддзі. Адзін з мясцовых адмыслоўцаў папярэдзіў і пра магчымую пагрозу, якая можа зыходзіць ад расійскіх спецслужб. На яго думку, супрацоўнікі гэтых службаў пад выглядам абхазаў і асецін атрымаюць грузінскія пашпарты і з гэтымі пашпартамі паспрабуюць дыскрэдытаваць грамадзян Грузіі ў краінах Шэнгена, каб быў запушчаны так званы «механізм прыпынення бязвізавага рэжыму». Варта нагадаць, што асноўныя праблемы на шляху атрымання бязвізавага ўезду Грузіяй былі звязаныя з праблемай арганізаванага грузінскага крыміналу ў Еўропе.

«Бязвізішвілі» відавочна паўплывае на рэгіянальны палітычны працэс. Гэта, напрыклад, пстрычка па носе Эрдагану. Турцыя даўно вядзе перамовы з ЕС пра скасаванне візаў і, быццам, нават выйшла ў перамовах на фінальную дыстанцыю. Аднак у выніку туркаў апярэдзілі грузіны, якім на атрыманне Шэнгена спатрэбілася каля 5 гадоў. Беручы пад увагу, што Турцыя ўтрымлівае на сваёй тэрыторыі амаль тры мільёны бежанцаў, якія імкнуцца ў Еўропу, выбар ЕС на карысць Грузіі можа паглыбіць цяперашнія еўрапейска-турэцкія калізіі.

Армянская дэмакратычная прэса мяркуе, што бязвізавы рэжым для грузін натхніць армянскія праеўрапейскія сілы напярэдадні гарачай палітычнай вясны. Нягледзячы на тое, што Арменія — сябра Еўразійскага Эканамічнага Саюза, унутрыпалітычная барацьба за геапалітычны вектар краіны тут яшчэ трывае.

Нарэшце, пра наступствы грузінскага «бязвізу» для Украіны, якой доўгі час абяцалі тое ж самае ў адным пакеце з Грузіяй. Тое, што Грузія дамаглася візавай лібералізацыі без Украіны, выклікала ў Кіеве пачуццё адкрытай зайздрасці. З'ява, напэўна, тлумачыцца тым, што тэма «бязвізу» ў выступах таго ж Парашэнкі выглядае як універсальная панацэя ад усіх існуючых праблем. Ілюстрацыяй незвычайнай псіхалагічнай траўмы ўкраінцаў на глебе візавага пытання стаў фармат «дня сурка», які праводзіцца на пачатку лютага. Дзень сурка — рытуал, падчас якога па паводзінах жывёлы спрабуюць прагназаваць час надыходу вясны. У гэтым годзе жывёлам-метэаролагам ва Украіне прапанавалася таксама адказаць на пытанне, ці атрымаюць украінцы «бязвіз» у 2017-м. Жывёлы, як піша прэса, абралі шыльды накшталт «Бязвіз у 2017-м». Паглядзім, ці не падмануць спадзяванні чыноўнікі.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ



### Марцін Шульц

Экс-спікер Еўрапарламента, кандыдат у канцлеры ФРГ ад Сацыял-дэмакратычнай партыі (SPD) робіць фантастычныя рэчы. Спачатку рэспандэнты прызналі яго больш прывабным за Ангелу Меркель. Шульц падабаецца 55 працэнтам немцаў (у Меркель крыху больш за 30 працэнтаў).

У прынцыпе, Меркель магла б спакойна ігнараваць тое, што іміджава прайграе Шульцу, паколькі Германія — парламенцкая дэмакратыя, і ўсё залежыць ад памеру фракцый. Аднак аднача-сова пачаў расці давер да SPD. На пачатку тыдня ўпершыню з 2006 года сацыял-дэмакраты абышлі кансерватараў (31 супраць 30 працэнтаў).

Дасюль цяжка зразумець прычыны такога трыумфу Шульца, паколькі выбарчая праграма эсдэкаў не вельмі адрозніваецца ад праграмы хадэкаў. Адзінае, што прыходзіць палітолагам у галаву, — Меркель, якая кіруе краінай 12 гадоў, сапраўды надакучыла. Не спадабалася немцам і тое, што апаненты Шульца намагаліся гуляць на тым, што кандыдат эсдэкаў быў у маладосці алкаголікам і не мае дыплому ВНУ.

Падаецца, пакуль хрысціянскія дэмакраты не знайшлі антыдоту супраць «алкаголіка». З іншага боку, казаць пра тое, што Шульц утрымае вядучую пазіцыю яшчэ рана. Вядомы часопіс «Spiegel» правёў апытанне сярод нямецкіх палітолагаў. 56 працэнтаў апытаных лічаць, што лідарства эсдэкаў і Шульца — часовы эфект.



### Марыза Лула да Сілва

Жонка экс-прэзідэнта Бразіліі Луіса Інасіу Лула да Сілва памерла 3 лютага ва ўзросце 66 гадоў, што стала сапраўднай трагедыя для бразільцаў.

Пры жыцці Марыза мела рэпутацыю вельмі блізкага да народу палітыка. Яна нарадзілася ў 1950-м у сям'і італьянскіх імігрантаў і была вымушана з 13 гадоў працаваць на шакаладнай фабрыцы. Пазней, будучы школьным інспектарам, пазнаёмілася з Луісам, лідарам прафсаюзаў металургаў. Паколькі да пачатку 1980-х у Бразіліі панавала дыктатура, Луіс і Марыза прайшлі праз шмат выпрабаванняў — аж да арыштаў. З прыходам дэмакратыі муж Марызы стаў лідарам Партыі працоўных, сцяг якой прыдумала і асабіста пашыла Марыза.

Цікава, што яе муж балатаваўся на пасаду лідара Бразіліі чатыры разы, аднак стаў прэзідэнтам толькі пасля таго, як у выбарчы тур разам з ім выправілася Марыза (раней яна была вымушана ігнараваць выбарчыя мерапрыемствы, бо займалася выхаваннем чатырох дзяцей). За восем гадоў у ролі першай лэдзі Марыза толькі раз трапіла ў публічны скандал: калі пасадзіла перад прэзідэнцкім палацам чырвоныя кветкі ў выглядзе зоркі. Клуб аматараў гісторыі палічыў гэта замахам на гістарычны дызайн комплексу і патрабаваў ад Марызы вярнуць газону стары выгляд.

### Вадзім Краснасельскі



Новаабраны прэзідэнт самаабвешчанай Прыднястроўскай Малдоўскай Рэспублікі (ПМР) адхіліў прапанову аб перамовах па прадастаўленні рэгіёну асаблівага статусу ўнутры Малдовы. Такі статус прапанаваў Цірааспалю малдаўскі калега Ігар Дадон, які, як вядома таксама арыентуецца на Маскву.

Як заявіў Вадзім Краснасельскі, ён не збіраецца мяняць курс непрызнанай рэспублікі на далучэнне да Расіі, як патрабуюць вынікі рэферэндуму, што прайшоў тут у 2006 годзе. З улікам таго, што пра той плебісцыт даўно забыліся, заява Краснасельскага крыху незвычайная. Тым больш, што Крэмль, які курыруе Цірaспаль, раней выступаў за прапанаваны Дадонам сцэнар вырашэння канфлікту, які цягнецца з пачатку 1990-х. Магчыма, маскоўскія спонсары ПМР баяцца, што ў выпадку вырашэння праблемы Прыднястроўя лагічна паўстане пытанне пра тое, што тут робіць расійская групоўка міратворцаў. Наяўнасць такой групоўкі — моцны фактар у гульні супраць Кіева.

Магчыма таксама, што Пуцін пакуль не цалкам давярае новаму малдоўскаму гаранту, які звязаны з алігархатам, што раней падтрымліваў курс краіны на Захад. Сімвалічна, што, нягледзячы на прамаскоўскую рыторыку Дадона, днямі ў Кішынёве адчыніліофіс-прадстаўніцтва NATO — такога не было пры самых празаходніх малдаўскіх прэзідэнтах.



Афіцэры Корпуса аховы памежжа ў Валожыне, сярэдзіна 1920-х



Войска Польскае ў Заходняй Беларусі



Часткі Войска Польскага, Баранавічы, канец 1920-х гадоў

# Вайна, якой не адбылося



Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**У першыя гады пасля заканчэння польска-бальшавіцкай вайны Крэмль усё яшчэ марыў пра «сусветную рэвалюцыю» і планаваў «праз труп панскай Польшчы» прарвацца на еўрапейскую «аператыўную прастору». Тэрыторыя Заходняй Беларусі адыгрывала ў планах бальшавікоў галоўную ролю.**

## Паўночны накірунак

У Рызе 18 сакавіка 1921 года была падпісана мірная дамова паміж Другой Рэччу Паспалітай і Савецкай Расіяй, паводле якой Заходняя Беларусь і Заходняя Украіна апынуліся ў складзе польскай дзяржавы. З аднаго боку, Польшча атрымала тэрыторыі на Усходзе. З іншага — насельніцтва гэтых зямель было, у сваёй большасці, не польскім, і гэта давала магчымасць бальшавікам спадзявацца на хуткія антыпольскія выступленні, што, на думку Масквы, справакуе «рэвалюцыйную сітуацыю» ў гэтым рэгіёне. Да таго ж Крэмль не збіраўся адмаўляцца ад ідэі «сусветнай рэвалюцыі», дзеля якой чырвоным палкам давялося б знішчыць польскую дзяржаву. Усё гэта разумелі і ў Варшаве, таму польская выведка ўважліва сачыла за канцэнтрацыяй Чырвонай Арміі на сваіх усходніх межах.

У чэрвені 1921 года Другі аддзел польскага генштаба («Двуйка») праз сваіх выведнікаў у Латвіі атрымліваў інфармацыю пра рух бальшавіцкіх войскаў на польска-латвійскай мяжы. У гэты час сярод латвійскага насельніцтва пашыралася думка, што бальшавіцкая Расія хутка нападзе на Польшчу. Інфармацыю пра канцэнтрацыю чырвонаармейскіх частак на мяжы пацвярджалі і шматлікія бежанцы з «бальшавіцкага раю». У 1921–1925 гадах на тэрыторыі Заходняй Беларусі актыўна дзейнічалі савецкія дыверсійныя фарміраванні, накіраваныя ў Польшчу Разведупрам РСЧА. Іх дзейнасць называлася «актыўнай выведкай», але, часцей за ўсё, зводзілася да тэрарыстычных актаў супраць асаднікаў, памешчыкаў і прадстаўнікоў польскай улады. Галоўнай мэтай гэтых атрадаў быў уздым рэвалюцыйных настрояў сярод насельніцтва заходнебеларускіх тэрыторый.

## Вярнуць Бесарабію

У гэты ж час савецкія дыверсанты паспяхова дзейнічалі і на румынскай тэрыторыі. Гэта непакоіла не толькі Бухарэст, але і Варшаву. Палякі разлічвалі на дапамогу румынскага боку ў выпадку вайны з бальшавіцкай Расіяй, таму імкнуліся дапамагаць саюзнікам. У 1921–1922 гадах у Кішынёве дзейнічала прадстаўніцтва Другога аддзела генштабу Войска Польскага. У лютым 1924 года была заключана польска-румынская дамова, на падставе якой распачалася супраца паміж выведкай румынскай 8-й пяхотнай дывізіі з Чарнаўцоў і польскай Экспазітурай № 5 у Львове. У студзені 1923 года польскі вайсковы аташэ ў Маскве падпалкоўнік Рамуальд Валікоўскі паінфармаваў Варшаву пра тое, што савецкі бок рыхтуецца перакінуць значныя вайсковыя злучэнні з Сібіры на мяжу з Румыніяй. Палякі тут жа перадалі гэтыя дадзеныя свайму паўднёваму сябру.

У чэрвені таго ж года палякі зноў паведамілі румынскім калегам-выведнікам, што на чыгуначных шляхах БССР і УССР назіраецца рух вайсковых эшалонаў у бок савецка-румынскай дэмаркацыйнай лініі ў Бесарабіі. Сярод іншага камандаванне Чырвонай Арміі перакідвала на Поўдзень абсталяванне для 60 палявых вайсковых шпіталяў. Польскія выведнікі папярэджвалі Бухарэст, што на тэрыторыі СССР пашыраюцца антырумынскія настроі. Пры гэтым Масква прапагвала перакідаць у Бесарабію сваіх агентаў з мэтай збору выведдадзеных і распаўсюджвання камуністычных ідэй. Пры гэтым і палякі разлічвалі на дапамогу з румынскага боку. У выпадку нападу СССР на Другую Рэч Паспалітую польскі бок спадзяваўся, што румыны выставяць супраць бальшавікоў да 20 дывізій.

## На дапамогу «чырвонай» Германіі

Увесну 1922 года агенты «Двуйкі» дакладалі ў Варшаву, што на дзяржаўнай мяжы з БССР адбываецца значны рух бальшавіцкіх войскаў і ўзмацненне памежнай аховы. У гэты ж час кіраўнік Другога аддзела Генштаба Войска Польскага падпалкоўнік Ігнацій Матушэўскі загадаў сваім супрацоўнікам сабраць падрабязную інфармацыю пра структуру, месца дыслакацыі і задачы памежных войскаў ДПУ.



Камандзіры 4-й стралковай дывізіі РСЧА з Бабруйска, 1924 год

Тады ж польскім выведнікам удалося атрымаць дадзеныя пра функцыянаванне ў Смаленску спецыяльнай школы для падрыхтоўкі ўдарных дыверсійных груп на выпадак вайны з Польшчай. Гэтыя бальшавіцкія спецгрупы павінны былі дзейнічаць на тэрыторыі Віленшчыны і Заходняй Беларусі.

Найбольш напружанай сітуацыя стала ўвосень 1923 года. На працягу ўсяго года ў Германіі назіраўся ўсплеск дзейнасці камуністычнай партыі, якая набрала палітычныя дывідэнды на фоне цяжкага эканамічнага і палітычнага становішча ў краіне. У жніўні 1923 года на пасяджэнні Палітбюро ЦК РКП(б) Карл Радэк прапанаваў пачаць падрыхтоўку ўзброенага паўстання ў Германіі. На той момант нямецкія камуністы ўжо мелі добра навучаныя ўзброеныя атрады. Крэмль прыняў рашэнне аб стварэнні «арганізацыйнага камітэта» па падрыхтоўцы ўзброенага выступлення.

**«Германскі праект» Крамля не ажыццявіўся, але ўжо восенню 1924-га польская выведка інфармавала Варшаву, што бальшавікі рыхтуюцца да вайны**

У верасні 1923 года бальшавікі распрацавалі план, паводле якога планавалася ўзброіць каля 50 тысяч працоўных у Саксоніі і Цюрынгіі. Пасол Савецкага Саюза ў Берліне Мікалай Крэсцінскі «курыраваў» фінансавы бок паўстання.

У сваю чаргу, камандаванне Чырвонай Арміі распрацавала мабілізацыйны план на выпадак «узброенай падтрымкі для нямецкага пралетарыяту». У Крамлі планавалі выкарыстаць для гэтага 20 дывізій РСЧА (каля 2,5 мільёнаў чалавек). Пры гэтым на камандныя пасады прызначаліся афіцэры, якія валодалі нямецкай мовай.

23 верасня 1923 года Рыгор Зіноўеў падрыхтаваў тэзісы для прадстаўнікоў палітбюро. У дакуменце адзначалася: «Ідэя хаўрусу Германіі з СССР карыстаецца ў Германіі вялікай папулярнасцю і мае мільёны паплечнікаў. Савецкая Германія з першых дзён свайго існавання заключыць цесны саюз з СССР. [...] Ён створыць новую фазу НЭПу ў Расіі, паскорыць і ўмацуе развіццё сацыялістычнай дзяржпрамысловасці ў СССР. [...] У сітуацыі, якая склалася ў ва ўсёй Еўропе, у святле пралетарскай рэвалюцыі, якая насоўваецца на Германію, і магчымасці новай вайны цалкам своечасова высунуць лозунг Злучаных штатаў рабоча-сялянскіх рэспублік Еўропы».

Польскія выведнікі, якія працавалі на мяжы з савецкай Беларуссю, з жахам канстатавалі павелічэнне колькасці чырвонаармейскіх частак, якія ў поўным баявым рыштунку канцэнтраваліся побач з польскай тэрыторыяй. 10 кастрычніка 1923 года ў газеце нямецкіх камуністаў «Ротэ фанэ» быў надрукаваны зварот Іосіфа Сталіна да германскага пралетарыята, у якім, у прыватнасці, адзначалася: «Рэвалюцыя ў Германіі з'яўляецца самай важнай падзеяй апошніх дзён. Яе перамога будзе мець для пралетарыята Еўропы і Амерыкі большае значэнне, чым перамога расійскай рэвалюцыі шэсць гадоў таму. Перамога германскага пралетарыята, безумоўна, перанясе цэнтр сусветнай рэвалюцыі з Масквы ў Берлін». Як бачым, бальшавікі рабілі вялікія стаўкі на нямецкі рэвалюцыйны ўздым. Крэмль нават не палохала перспектыва ўзброенага канфлікту з Другой Рэччу Паспалітай, праз тэрыторыю якой прыйшлося б прабівацца бальшавіцкім часткам, якія б ішлі на дапамогу «чырвоным» немцам. Аднак у апошні момант нямецкія камуністы «спужаліся» паразы і адмовіліся ад узброенага паўстання. У Гамбургу ўсё ж адбылася спроба захопу горада пралетарскімі масамі, аднак рэйхсвер падавіў гэтае выступленне.

## Вайна адкладаецца

«Германскі праект» Крамля не ажыццявіўся, але сітуацыя на савецка-польскай мяжы не супакоілася. Восенню 1924 года польская выведка інфармавала Варшаву, што бальшавікі рыхтуюцца да вайны. «На трыццаць першы дзень з моманту пачатку ўзброенага канфлікту Чырвоная Армія на Заходнім фронце супраць Польшчы і Румыніі будзе мець 50 стралковых, 10 кавалерыйскіх дывізій і тры асобныя кавалерыйскія брыгады», — адзначалася ў адным з дакументаў «Двуйкі». Таксама, паводле польскай і французскай выведкі, на ўзбраенні Чырвонай Арміі ў той час знаходзілася 117 бронецягнікоў, 140 танкаў, 383 браневіка, 10 тысяч гармат і каля 22 тысяч кулямётаў розных сістэм.

Восенню таго ж года бальшавікі перакінулі на мяжу з Польшчай 4-ю стралковую дывізію РСЧА з Бабруйска. Гэтая вайсковая частка мела выдатны баявы досвед. У 1920 годзе яе жаўнеры штурмавалі Варшаву, удзельнічалі ў баявых дзеяннях супраць частак Станіслава Булак-Балаховіча ля Лоева і Рэчыцы. У 1921 годзе гэтае злучэнне выкарыстоўвалі для барацьбы з антыбальшавіцкімі атрадамі на Міншчыне і Гомельшчыне. У 1924 годзе 11-ты полк бабруйскай дывізіі быў размешчаны пад Слуцкам, а 12-ты заняў абарону ў раёне Жыткавічы–Тураў.

У гэты ж час і палякі ўзмацнілі ахову ўсходняй мяжы. Замест слабай памежнай паліцыі «рыжскі кардон» стаў ахоўвацца добра падрыхтаваным і выдатна ўзброеным Корпусам аховы памежжа. Яго жаўнерам хутка ўдалося «закрыць» мяжу з Саветамі і спыніць дзейнасць бальшавіцкіх агентаў і дыверсантаў у Заходняй Беларусі і Украіне. У другой палове 1920-х гадоў Крэмль канчаткова выршыў «пачакаць» з рэалізацыяй ідэі «рыўка ў Еўропу праз труп панскай Польшчы». Чакаць давялося да верасня 1939-га.

# Засцянковая Атлантыда Фларыяна Чарнышэвіча

Алена ЛЯШКЕВІЧ

**У лютым выходзіць беларускі пераклад раману «Надбярэзінцы» Фларыяна Чарнышэвіча, польскага пісьменніка, які нарадзіўся ў Бабруйскім павеце, паходзіў з дробнай засцянковай шляхты.**




Прэзентацыя кнігі адбудзецца ў рамках XXIV Міжнароднай кніжнай выставы-кірмаша 11 лютага ў 14:00 у канферэнц-зале выставачнага павільёна (Мінск, пр. Пераможцаў, 14). Выданне ажыццявіла выдавецтва «Янушкевіч» пры падтрымцы Польскага інстытута ў Мінску і Інстытута кнігі (Кракаў).

«Засцянковай Атлантыдай» услед за літаратарам Юзафам Чапскім назваў апісаны ў рамане побыт шляхецкага засценку ва Усходняй Беларусі пачатку XX стагоддзя аўтар прадмовы да беларускага перакладу «Надбярэзінцаў» Аляксандр Пашкевіч. І праўда, Атлантыда. Пра зніклую габрэйскую культуру беларускіх гарадоў і мястэчак мы трохі ведаем, а пра зніклую вясковую «польскасць» — зусім няшмат.

Фларыян Чарнышэвіч, грунтуючыся на сваіх успамінах, распавядае пра лёс жыхароў шляхецкіх засценкаў паміж Бярэзінай і Дняпром у 1911–1920 гадах і складаныя этнічныя ды палітычныя стасункі на гэтых землях. У рамане фігуруюць Бабруйск, Жлобін, Бялынічы, а асноўнае дзеянне адбываецца на прасторах сучаснага Клічаўскага раёна Магілёўскай вобласці, у вёсцы Смалярня і мястэчку Вонча, правобразы якіх яшчэ трэба знайсці.

## «Шляхта» — «паляк» — «пан» — «каталік»

У Клічаўскім раёне сёння складана адшукаць напамін пра тыя часы. Драўляныя хаты спарахнелі ці згарэлі ў вайну, з камянічак застаўся хіба паравы млын насупраць аўтастанцыі ў Клічаве.

У адпаведнасці з раманам, касцёл у мястэчку Вонча, адным з правобразаў якога, верагодна, стаў Клічаў, так і не пабудавалі. Жыхары Смалярні Чарнышэвіча (аднайменная вёска знаходзіцца за 5 км ад Клічава) часам наведвалі набажэнствы ў Бабруйску, а часцей маліліся па хатах. Такімі хатнімі набажэнствамі кіраваў «багамол» Кантычка, якому жыхары Смалярні былі за гэта вельмі ўдзячныя: «інакш бы ператварыліся ў мужыкоў». У той жа час Фларыян Чарнышэвіч згадвае «праваслаўных палякаў», якім пашанцавала менш, чым жыхарам Смалярні: па ксяндза ехаць далёка, свайго «багамола» няма, таму даводзілася карыстацца паслугамі праваслаўнага папа.

Польскі даследчык Эдвард Малішэўскі, спрабуючы патлумачыць звязку «каталіцтва — польскасць» у Паўночна-Заходнім краі Расійскай імперыі, прыйшоў да высновы, што там, дзе каталікоў усіх саслоўяў было больш (Віленская, Гродзенская губерні), гэта сувязь праглядалася слабей. Ва ўсходніх губернях, дзе каталікі жылі ў праваслаўным асяродку, яны вастрэй адчувалі сваю іншакавасць, «польскасць». Асноўную масу такіх «палякаў» складала дробная засцянковая шляхта, якая звычайна мела мясцовыя карані і вяла радавод ад колішніх шляхецкіх родаў Вялікага Княства Літоўскага.

Спачатку большасць беларускай шляхты прытрымлівалася праваслаўнага веравызнання, але да канца XVIII стагоддзя пад уплывам дзяржаўнай палітыкі Рэчы Паспалітай перайшла ў каталіцызм. Тым не менш, напрыклад, у ваколіцах Давыд-Гарадка Столінскага раёна шляхецкія вёскі заставаліся праваслаўнымі, і акцэнтаваўся не рэлігійны, а саслоўны складнік: да 1980-х гадоў нават шлюбы з «мужыкамі» былі рэдкасцю.

У мясцінах, якія апісвае Фларыян Чарнышэвіч, так доўга памяць пра шляхецтва не пражыла. У вёсцы Аколіца, што згадваецца ў рамане, пра забытую польскасць цяпер сведчаць адно помнікі на могілках. Там распавядаюць, што «шляхтуном» сяляне маглі назваць шляхціца з мэтай абразіць, падчас сваркі.

Паводле словаў мясцовых жыхароў, «паны параз'язджаліся» да Другой сусветнай вайны, некаторых пасля вайны раскулачылі і расстралялі «за тое, што з Польшчай былі звязаныя». Калісьці ў Аколіцы было каля 6 «панскіх двароў», узгадваюць прозвішчы: Гуцеры, Мажаўскія, Масціцкія, Бурэцкія, Язерскія, Карбановічы. «Паны» размаўлялі па-беларуску і наймалі сялян на сезонныя сельскагаспадарчыя работы.

Апісваючы Аколіцу, Фларыян Чарнышэвіч адзначаў, што ўжо ў яго час не насельнікі не ведалі польскай мовы. Сучасныя жыхары Клічаўскага раёна 1920–1930-х гадоў нараджэння выкарыстоўваюць словы «шляхта», «палякі», «каталікі» і «паны» як сінонімы. Сустракаюцца выразы кшталту «пісаць па-шляхоцку».

## Ці тая Смалярня?

Да самой Смалярні дабрацца пакуль не давялося, але мой дзядуля Мікалай Паўлавіч Мельнічонак 1928 г. н. (амаль усё жыццё пражыў у Клічаве і раёне) нават не ўзгадаў, што там калісьці жыла шляхта. Паведаміў, што была яшчэ адна Смалярня, дзе сяліліся вартаўнікі панскага лесу, і тая акурат была шляхецкай. Вёска знаходзілася на лясной дарозе з вёскі Усакіна на Мацевічы (цяпер у Бярэзінскім раёне), над прытокам Ольсы, і недзе ў 1930-х гадах была пакінутая жыхарамі. Гэта прыкладна 24 км на поўнач ад Клічава.

Падчас экспедыцыі Студэнцкага этнаграфічнага таварыства ў 2011 годзе жыхары Клічаўскага раёна ўзгадалі, што шляхта жыла ў вёсках Аколіца, Турчылоў, Мікалаеўка, Анатолеўка, Дубраўкі, Аляксееўка, Дзмітраўка, Галішчына, Рэпішча, Ганаратаў, Кабылянка. Кавалёнак Яніна Уладзіміраўна 1922 г. н. з хутара Застар'е назвалася «шляхцянкай польскай нацы», якой пасля раскулачвання сям'і давялося пераехаць у вёску Рэпішча. Частка сям'і з'ехала ў Польшчу.

Яніна Уладзіміраўна распавядае, што да яе прыходзілі «рускія» каляднікі, разлічваючы на шчодры пачастунак. Адрозненні ад навакольных сялян адчуваліся: «Мы шляхты, а яны рускія былі». Шляхта па-іншаму святкавала, спявала іншыя песні. Пра шляхту Яніна Уладзіміраўна кажа, што тая жыла пры лесе, «не лезлі ў чараду». Мой дзядуля апавядае, што ў вёсцы Аколіцы была пачатковая польская школа, а потым палякі давучваліся ў Коўбчы, вучыліся добра. Каўбчанскія хлопцы іх не любілі і «мужыкі са шляхтай» біліся амаль штодня.



Будынак паравога млына ў Клічаве, 2016 г. Фота Алены Ляшкевіч



Помнікі на могілках у вёсцы Аколіца Клічаўскага раёна, 2011 г.
Фота з архіву РМГА «Студэнцкае этнаграфічнае таварыства»

У Клічаўскім раёне дзейнічалі польскія нацыянальныя сельсаветы: Усохскі (з 1924 г.) і Наталоўскі (з 1926-га). На пытанне, куды падзеліся ўсе гэтыя «палякі», мой дзядуля выказвае здагадку, што «запісаліся пасля вайны беларусамі».

## Цені забытых продкаў

Шлях «Надбярэзінцаў» да беларускага чытача быў доўгім. Аўтар удзельнічаў у польска-бальшавіцкай вайне 1919–1920 гадоў у якасці выведніка, а пасля дэмабілізацыі служыў паліцыянтам у Вільні. У 1924 годзе эміграваў у Аргенціну, дзе пражыў рэшту жыцця, працуючы на мясабойні. Актыўна ўдзельнічаў у польскім руху на эміграцыі. Агулам напісаў чатыры раманы.

Шасцісотстаронкавая авантурна-меладраматычная эпапея «Надбярэзінцы», упершыню выдадзеная ў 1942 годзе ў Буэнас-Айрэсе, мае аўтабіяграфічны характар, пралівае святло на малавядомыя беларусам старонкі гісторыі, звязаныя ў тым ліку з дзеяннямі на Бабруйшчыне ў 1918 годзе Першага польскага корпуса, якім камандаваў генерал Юзаф Доўбар-Мусніцкі.

Праз антыкамуністычную рыторыку «Надбярэзінцы» выйшлі ў Польшчы толькі ў 1991-м. Фрагменты з рамана ў беларускім перакладзе былі апублікаваныя ў часопісе «Arche» №10 за 2014 год. Пераклад, які выдаецца цяпер, выканалі Кацярына Мацiеўская, Алена Пятровіч, Марына Шода і Ганна Янкута. Рэдагавала тэкст Марыя Мартысевіч, карані роду якой таксама цягнуцца з Клічаўшчыны.

«Да сёлета я няшмат ведала пра радзіму майго дзеда Антона Брылеўскага, — піша Марыя ў фэйсбуку, — агулам толькі тое, што ён каталік з Усходняй Беларусі. Бабуля казала, з-пад Крычава. Але падчас працы з рукапісам мяне пачалі цярзаць смутныя сумненія... Я апытала сваю сям'ю і выявілася, што яны ўсё жыццё блыталі Крычаў і Клічаў, а засценак Вяленік, дзе нарадзіўся дзядуля, месціцца за колькі кіламетраў ад гіпатэтычнай Смалярні — эпіцэнтру дзеяння раману.

Мой дзед — надбярэзінец!

У трэцяй частцы кнігі адбылося тое, чаго я з трымценнем чакала, — з'явіўся шляхціц з хутароў Брылеўскі, які папярэдзіў галоўнага героя пра небяспеку.

Мае прабабуля Эмілія і прадзед Ян — равеснікі герояў раману. Мой дзядуля Антон усё жыццё маўчаў пра сваё дзяцінства. Фларыян Чарнышэвіч дае адказ, чаму».

**У матэрыяле выкарыстаны архіў РМГА «Студэнцкае этнаграфічнае таварыства»**

# Кінапрэм’еры года

Алег ГРУШЭЦКІ

**Кампанія «Інтэрфільм Дыстрыбʼюшн» прэзентавала кінапрэмʼеры ад «Universal Pictures», якія беларускі глядач зможа ўбачыць на экранах айчынных кінатэатраў у першай палове 2017 года. Камедыя, экшэн, хорар, мультфільмы, сямейныя фільмы і гістарычныя рамантычныя драмы...**



«Цюльпанавая ліхаманка»

**9 лютага** аматараў «50 адценняў шэрага» чакае працяг нашумелай гісторыі — **«На 50 адценняў цямней»**. Стужка разлічана хутчэй на жаночую аўдыторыю, якая, між іншым, паводле даследаванняў кінапракатчыкаў, лічыцца найбольш мабільнай і актыўнай у тым, што тычыцца любві да фільмаў і наведвання навінак. Плануецца, што фільм дасягне па касавых зборах 1 200 000 BYN, нават нягледзячы на тое, што ў ім менш эратычнага складніку, чым у папярэдняй гісторыі. Пакуль Крысціян Грэй змагаецца са сваімі ўнутранымі дэманамі, Анастэйша Стыл вымушана супрацьстаяць гневу і зайздрасці тых жанчын, што былі з Крысціянам да яе. З гэтага часу ніякіх правіл, ніякіх умоў і ніякіх сакрэтаў. Запрашаем у свет раскошы і спакусы.

Рамантычную лінію **2 сакавіка** працягне прыгожая гісторыя па аднайменнаму раману **«Цюльпанавая ліхаманка»**. Фільм таксама хутчэй жаночы. Прыгожа касцюміраваны і добра прапрацаваны ў дэталях — псіхалогія адносін, вострыя пачуцці. Рамантычная гісторыя кахання на фоне цюльпанавай ліхаманкі XVII стагоддзя. На фоне цюльпанавай утрапёнасці багаты гандляр Карнеліс бярэцца шлюбам з прыгажуняй Сафіяй. У гонар шлюбу Карнеліс замаўляе іх сямейны партрэт. Але паступова праца над карцінай перарастае для мастака і Сафіі ў нешта большае — гарачае і палкае каханне.

Не забылі і пра дзіцячую аўдыторыю. З **2 сакавіка** стартуе поўнаметражны **мультфільм «Зверапой»**. На яго кінапракатчыкі таксама ўскладаюць вялікія спадзяванні. Яго можна параўнаць з «Таемным жыццём хатніх жывёл». Кожная жывёла марыць стаць зоркай. Сланіха, баран, бык, і нават свінка — літаральна ўсе рвуцца да славы. Хто ведае, каму ўсміхнецца капрызная фартуна і чый партрэт упрыгожыць заўтра вокладкі глянцавых часопісаў. Усё як у людзей. Але гэты мультфільм не толькі для дзіцячай аўдыторыі — ён разлічаны для сямейнага прагляду, на ўсе ўзросты. Дэманстравацца стужка будзе як у 2D, так і 3D.

З **26 сакавіка** ў абмежаваным пракаце выходзіць **трылер «Спліт»**. Стужка — на аматараў жахаў і не затрымаецца доўга ў пракаце. Сярод белага дня са шматлюднай паркоўкі незнаёмец выкрадае трох дзяўчат. Яны аказваюцца ў дзіўным таямнічым месцы, дзе паўсюль раскладзеныя кветкі, а ў душы ўладальніка дома ўтойваюцца 23 аблічча страху. Адзін з іх яшчэ пакажа сябе свету.

**30 сакавіка** чакае аматараў хорару і класіка жанру — **«Жах Аміцівіля: Абуджэнне»**, чарговы рымейк стужкі 1979 года. Калі верыць кінавытворцам, гісторыя заснаваная на рэальных падзеях. Неяк уначы ў паліцэйскім участку мірнага мястэчка прагучаў тэлефонны званок, у якім паліцыянтаў прасілі як мага хутчэй прыбыць у адзін з дамоў. Там праваахоўнікі выявілі некалькі скрываўленых цел цэлай сям’і, якая была па-зверску забітая. Праз пару дзён адзіны выжыўшы з сям’і прызнаўся, што гэта ён застрэліў сваіх родных. Паводле яго словаў, ім авалодаў нейкі голас, які загадваў здзейсніць забойствы. Праз некалькі гадоў у будынак заехала маці-адзіночка з трыма дзецьмі. Яна спадзявалася, што знайшла дом сваёй мары. Неўзабаве з новымі жыхарамі пачалі адбывацца дзіўныя рэчы. Сям’ю пераследавалі вусцішныя галюцынацыі і жахлівыя галасы.

З кінапрэм’ерамі другога квартала 2017-га мы таксама вас пазнаёмім.



«Жах Аміцівіля: Абуджэнне»



«Зверапой»



## Шаноўныя чытачы!

**«Новы Час» немагчыма купіць у шапіках РУП «Белсаюздрук». Няма нас і ў падпісным каталогу РУП «Белпошта».**

Але атрымаць «Новы Час» можна. Для гэтага трэба: 1. Пералічыць грошы на наш рахунак; 2. Накіраваць копію плацёжнага дакумента на адрас рэдакцыі (220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234) ці на электронную пошту рэдакцыі (novychas@gmail.com). Альбо проста патэлефанаваць у рэдакцыю (+375 29 9625143; +375 29 7518143; Арцём).

**Нашы рэквізіты:** рахунак 3012741108019 у Дырэкцыі ААТ «Белінвестбанка», па г. Мінску і Мінскай вобл., код банка 153100739. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11.

**Таксама можна атрымаць газету ў нашым офісе і ў нашых прадстаўнікоў:**
**Магілёў:** (8 029) 722 61 69, Міхась
**Слуцк:** (8 029) 364 42 60, Зінаіда
**Гомель:** (8 029) 697 82 75, Аляксандр.

Кошт аднаго месяца — **3 рублі 20** капеек, **квартала — 9 рублёў.**

**ШЧЫРЫ ДЗЯКУЙ ВАМ ЗА РАЗУМЕННЕ І ПАДТРЫМКУ!**

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 131

Падпісана да друку 10.02.2017. 8.00. Наклад 3000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.